

ПОЎНЯ Міхася Андрасюка →3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Грушка - святое дрэва →8

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 35 (3251) Год LXIII Беласток, 2 верасня 2018 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

## Паломнікі ў Саках і Залешанах

Калі ў 1999 годзе аднаўляліся паветы, у Гайнаўскім павеце не было ні праваслаўнага манастыра, ні манаскага дома. Зараз у Саках каля Кляшчэляў дзейнічае Мужчынскі манастыр святога велікамучаніка Дзмітрыя Салунскага, а ў Залешанах побач Сакоў — Манаскі жаночы дом святой велікамучаніцы Кацярыны, які шчыльна супрацоўнічае з сакоўскім манастыром. Таксама побач Адрынок каля Нарвы дзейнічае Пустэльня святых Антонія і Феадосія Кіева-Пячэрскіх. У згаданых ужо намоленых месцах збіраецца многа праваслаўных паломнікаў. Дабіраюцца яны сюды на аўтамабілях, аўтобусах, трактарах, веласіпедах і пяшком.

Праабражэнне Гасподняе, якое ў народзе называюць Спасам, здаўна вельмі ўрачыста адзначаецца на горцы каля Сакоў, якога нябесным заступнікам з'яўляецца св. Дзмітрый Салунскі. Паломнікі, якія дабіраюцца сюды на аўтамабільным транспарце і пяшком, хочуць перамяніцца на лепшае. Таксама прыходзяць у царкву на горцы, каб пакланіцца перад іконай св. Дзмітрыя і папрасіць у святога дапамогі ў розных жыццёвых выпрабаваннях. Раніцай 19 жніўня гэтага года жыхары Кляшчэляў традыцыйна дабіраліся на Дзмітрыеўскую горку так, як рабілі гэта іх дзяды і прадзеды. У мінулым праваслаўныя паломнікі ў невялікіх групах хадзілі нават на вялікія адлегласці. Так нашы продкі хадзілі маліцца на Крыначку, у Стары Корнін, на Грабарку, у Жыровічы, а нават у Пачаеў.



Пасля літургіі адбылося хрэснае шэсце з іконай Праабражэння Гасподняга, падчас якога асвячаліся фрукты

Калі я на аўтамабілі ехаў у наваколле Дзмітрыеўскай горкі, машыны паломнікаў стаялі ўжо паабапал дарогі ў Саках і нават на дарозе ў Грабавец. Аўтамабілі стаялі таксама паабапал дарогі ў напрамку сяла Тапаркі. Гэтыя абедзве вёскі састаўляюць прыход Мужчынскага Дзмітрыеўскага манастыра ў Саках. На Дзмітрыеўскай горцы было ўжо многа людзей, якія маліліся ў царкве св. Дзмітрыя. Найбольш людзей стаяла на царкоўнай плошчы, якая апошнім часам была абведзена прыгожай агароджай. Распалажаны там праваслаўныя могілкі вёскі Сакі. Многія вернікі стаялі на іх паміж старымі драўлянымі крыжамі і новымі шыкарнымі помнікамі ў цяньку, які давалі старыя, магутныя дрэвы, што акружаюць царкву на ўзгорку. Гэты краявід крыху напамінае гару Грабарку і спасылаецца на гару Фавор, на якой адбылося Праабражэнне Гасподняе.

Бацькі з маленькімі дзеткамі яшчэ да літургіі і пазней наведвалі ларкі, каб купіць цацкі і цукеркі, якія прадаваліся далёка ад царквы. Вялікая паляна за царкоўнай агароджай пераўтварылася ў вялікую аўтастаянку. Наймалодшыя паломнікі вельмі актыўна прымалі ўдзел у багаслужбе, перамяшчаючыся паміж дрэвамі, а за імі хадзілі або толькі сачылі бацькі. Пасля літургіі адбыўся хрэсны ход з харугвамі і іконай Праабражэння Гасподняга, падчас якога святары і вернікі маліліся, чыталі фрагменты Евангелля і асвячалі фрукты — яблыкі, грушы, слівы, вінаград. Малітвы ў час хрэснага шэсця ўзначальвалі настаяцель Дзмітрыеўскага манастыра архімандрыт Цімафей (Саўчук) і кляшчэлеўскі благачынны, мітрафорны протаіерэй Мікалай Келбашэўскі, з якімі маліліся святары навакольных благачынняў.

Памаліцца на Дзмітрыеўскай горцы прыехалі таксама асобы, якія напярэдадні маліліся на Грабарцы. Некаторыя з іх дайшлі туды з гайнаўскім паломніцтвам. З Гайнаўкі паломніцтвы пастаянна ходзяць таксама ў Дабравешчанскі манастыр у Супраслі, у царкву ў Крыначцы і па горадзе паміж трыма прыходамі ў Гайнаўцы. Пешаходныя паломніцтвы вадзіў у Стары Корнін пакойны протаіерэй Леанід Шэшка, адкуль быў родам. Нядаўна паломніцтва са Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы ішло ў Пачаеўскую лаўру. З Польшчы выйшла каля 70 асоб, да якіх далучаліся паломнікі ў Беларусі і Украіне. З гайнаўскім паломніцтвам у Пачаеўскую лаўру перад святкаваннем у гонар Пачаеўскай іконы Божай Маці, якое адзначаецца 5 жніўня, прыйшлі ажно некалькі тысяч асоб. Дарога, якая заняла паломнікам прыблізна два тыдні, была вялікім выпрабаваннем вернікам з Гайнаўкі, Бельска-Падляшскага і іншых мясцовасцей. Каб паспець на святкаванні ў Пачаеўскі манастыр, паломнікі праходзілі кожнага дня дзясяткі кіламетраў.



Хрэсны ход з Залешанскай іконай Божай Маці да крыжа пасярэдзіне вёскі

Падчас святкавання Праабражэння Гасподняга ў Дзмітрыеўскай царкве ў Саках заўсёды шматлюдна. Штогод спатыкаю знаёмыя мне асобы з Гайнаўскага і Бельскага паветаў, з Беластока. Вернікі, якія трапляюць сюды ўпершыню, захапляюцца гэтым месцам і рашаюцца часцей прыязджаць сюды памаліцца, асабліва ў першыя нядзелі месяца, калі чытаюцца акафісты і служацца малебны перад іконай Дзмітрыя Салунскага.

Святкаванне Праабражэння Гасподняга каля Сакоў пачалося напярэдадні вечарам з усяночнай багаслужбы. Ноччу служылася першая літургія і чытаўся акафіст каля іконы Дзмітрыя Салунскага. У сам дзень святкавання яшчэ да літургіі асвячалася вада на горцы. Вернікі асвячонай вадой абмывалі хворыя месцы, набіралі яе ў бутэлькі і везлі дамоў сямейнікам, суседзям і сабе для пастаяннага выпівання перад снеданнем. Мітрафорны протаіерэй Мікалай Келбашэўскі падчас святкавання гаварыў пра адмоўную для праваслаўя свецкую моду сучаснай Еўропы, якая адыходзіць ад хрысціянскіх традыцый.

— Тое, што тут бачым, можна назваць цудам. Калі б паявіліся тут нашы продкі,

працяг ☞ 10



# Ніякіх высноў



Пяцьдзясят год таму, 21 жніўня 1968 года пачалася аперацыя „Дунай”, якая на той момант паклала канец Пражскай вясне і надзеям народаў ЧССР і яе кіраўніку, генеральнаму сакратару КПЧ Аляксандру Дубчаку пабудаваць „сацыялізм з чалавечым абліччам”. Гэтай фразай, „сацыялізм з чалавечым абліччам”, пазней, праз нейкіх два дзясяткі гадоў узброіцца яшчэ адзін генеральны сакратар — Міхаіл Гарбачоў. Толькі ён ужо будзе прадстаўляць кампартыю іншай краіны, той, якая і стала галоўным душыцелем гэтай фразы ў 1968 годзе ў Чэхаславакіі. Зрэшты, і яму не ўдасца адшукаць у сацыялізме таго чалавечага аблічча. Сацыялізм аказаўся няздольным да рэфармавання, а якое ў яго сапраўднае аблічча — засталося загадкай. Бо тое мноства прапагандысцкіх вобразаў ды іпастасяў, якія ён прымаў, аказаліся фальшывымі.

А ў 1968 годзе савецкая прапаганда назвала гэтую аперацыю брацкай дапамогай сацыялістычных краін і дамаглася, каб войскі большасці краін Варшаўскага дагавора перасеклі мяжу ЧССР. На Захадзе аперацыю „Дунай” назвалі ўварваннем у Чэхаславакію.

За гэтыя 50 год палітычная карта змянілася да непазнавальнасці. Няма больш Варшаўскага дагавора. Няма больш і Савецкага Саюза, і Чэхаславакіі таксама няма. Паўстае лагічнае пытанне: ну і чаго дамагліся гэтым узброеным уварваннем? Нічога ж з таго, да чаго тады прымусілі сілай, не засталося!

А што ёсць? Ёсць Чэхія, ёсць Славакія, ёсць каля дзвюх сотняў ахвяр гэтай аперацыі, якія не змаглі ўжо ўбачыць, што ідэі Пражскай вясны ўсё ж некалі перамогуць. Засталося каля паўтысячы раненых і на два дзясяткі гадоў жалезная заслона для чэхаў, славакаў, і таксама для тых, хто не даў ім адшукаць у той час свабоду.

Два дзясяткі гадоў народы Чэхаславакіі вымушаны былі жыць у турме. Гэта я зразумеў адразу, як па загадзе Міністра абароны СССР быў прызваны ў савецкае войска ў 1981 годзе і накіраваны ў Чэхаславакію. Там савецкія зампаліты і камандзіры мне намалявалі крыху адваротную карціну, чым малявалі дзесяць год у савецкай школе настаўнікі. Аказалася, нас усе ненавідзяць. Так мне і сказалі, як бралі распіску пра неразгалошванне гэтых сакрэтных звестак тэрмінам ажно на 10 год пасля службы.

Жаўнеры братняга войска ЧССР пры першай жа сустрэчы з намі для сумесных вучэнняў супраць агульнага ворага, прама і адкрыта пацвердзілі праўдзівасць слоў нашых камандзіраў пра сваю нянавісць да нас. Яны, не хаваючыся, заяўлялі, што вучацца зараз з намі ваяваць супраць нас. І калі ім ніхто не дапаможа, то яны некалі зробяць гэта самі.

Я стараўся зразумець, у чым розніца нашага стаўлення да гэтай агароджанай жалезнай заслонай велізарнай тэрыторыі і іхнага. Яны стараліся нам растлумачыць. Аказалася, яны не ненавідзяць людзей з СССР, а толькі сам СССР. (Так раскрылася першая хлусня савецкіх зампалітаў). І яшчэ яны верацскладзяць, што і ўсе савецкія людзі гэтак жа яго ўзненавідзяць, той СССР, як сістэму задушэння чалавечых свабодаў. Але вось розніцу на той момант у іх стаўленні да савецкай несправядлівасці і нашым зразумець было цяжка.

Пазней да мяне дайшло, што мы як грамадзяне гэтай краіны спадзяваліся, што яна і яе кіраўніцтва само рэфармуецца і стане больш справядлівым. А ў іх такіх надзей пасля 1968 года ўжо не было. Яны ўспрымалі сваё жыццё як у турме і адзіным шляхам да свабоды бачылі толькі ўцёкі. Уцёкі персанальныя, або цэлым народам.

Няма больш жалезнай заслоны. Нішто не вечна. Па апошніх апытаннях сацыёлагаў большасць маладых расіян увогуле не ведае пра тыя падзеі. Ды і сярод маладых чэхаў і славакаў, хай сабе не такі жудасны адсотак, але таксама такія знайшліся. А ўсяго то 50 год прайшло. Яшчэ жывуць блізкія і сваякі тых забітых з абодвух бакоў. А новыя забойствы ў новых узброеных канфліктах, ужо на тэрыторыі былога СССР, сталі яшчэ больш шматкольскаснымі і жудаснымі. А ў імя чаго?

1968 год гаворыць, што няма сэнсу ні ў чалавечых ахвярах, ні ў прымусе аднаго народа над другім. Усё стане на колы свае. Усе ахвяры марныя! Толькі вось усё паўтараецца. Ніякіх высноў.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Расказ кляшча

На травіне пад лесам спатыкаюцца два кляшчы. Адзін з патрапанай галавой, крыху хістаецца. Другі моцна раз’ятраны ... «Што, папіў зранку?!» — пытаецца клешч у кляшча. — «Э-э, не, — адказвае другі клешч. — Вецер здзьмуў мяне з дрэва і я зваліўся на галаву. Ты таксама?» — «Наадварот! Я збіраўся пад’есці, а нейкі ідыёт зваліў мяне са сваёй галавы...».

Чытачы дазволяць, што змаўчу пра далейшую размову кляшчоў. Яна сама па сабе незаймальная. Мяне асабіста больш хвалюе пытанне, нашто тыя кляшчы? Ці яны для распаўсюджвання хваробы Лайма і вірусная энцэфаліту? Не кажучы ўжо пра гекатомбу крыві, якую складаюць без дай прычыны людзі і жывёлы... Сапраўды, клешч, як здаецца, існуе для нічога! Або, з яго ўласнага пункту гледжання, менавіта толькі для сябе. Ці Бог ведае, для чаго яшчэ. Аналагічным чынам, у чалавечым свеце. Ніхто не ведае, нашто палітыкі ці судовыя выканаўцы. Толькі яны самі ведаюць, прыраўноўваючы сябе з усёведным Богам. І так жа яны паводзяць сябе, хоць, я мяркую, бедны Бог, якога беспадстаўна абвінавачваюць у розных злачынствах, напрыклад, войнах, галадаморах, эксплуатацыі чалавека чалавекам, не хоча мець нічога агульнага з імі. Усе яны, і палітыкі, і судовыя выканаўцы, і іншыя «дармаеды», аднак ёсць, але для чаго — я, дальбог, не магу зразумець. Дык чаму ж яны ёсць? Ну, каб прынесці турботы ўсяму жывому.

Падабенства з рэальнымі кляшчамі навязваецца само па сабе. Кляшчоў палітычных, якія сустракаюцца на чалавечых покрывах, маем у краіне хоць адбаўляй. Або і лішак. Усялякіх грамадскіх кляшчоў таксама. Згадаю судовых выканаўцаў пры агаворцы, аднак, што, калі яны паводзяць сябе па-чалавечы, нават калі ўпусцяць крыві, каб самім пракарміцца, дык усё ж не заразяць няшчаснага карміцеля вірусамі бесчалавечнай пагарды і жорсткасці. У цэлым, лік разнавіднасцей чалавечых кляшчоў непалічаны. Не толькі з групы судовых выканаўцаў. Асабліва неперапічаны высып бачыцца ў навакольным асяроддзі, якую я назваў бы дзяржаўнай нівай. Да Дзяржавы, якая разумеецца як орган вышэйшага грамадска-грамадзянскага ўжытку, надзвычай ахвотна ліпнуць розныя чалавечыя паразіты. Найбольш нахабны сярод іх быў, ёсць і будзе клешч-чыноўнік. Але гэта асобная гісторыя.

У апошні час займае мяне больш за ўсё клешч-судовы выканаўца. Вось, я атрымаў ад яго лісты, а папраўдзе шэраг пярэчыўшых адзін аднаму лістоў. У першым паведаміў, што судовы выканаўца ўзбудзіў супраць мяне справу з-за... падатковай пераплаты! З прэтэнзіямі да мяне звярнуўся муніцыпалітэт Беластока, які таксама скіраваў у 2011 годзе справу ў суд. У тым жа годзе суд засудзіў мне вярнуць Управе горада 122 злотых з грашакамі. Прайшло з таго часу 7 гадоў. Апавяшчэння суда, я клянуся ўсім святым, я не бачыў на вочы. Не атрымаў якіх-небудзь напамінкаў або запытаў. За гэты час сума вырасла да 90 злотых. Толькі што пасля першага ліста судовага выканаўцы пералічаныя іншыя плацяжы, у тым ліку: затраты на выкананне ў памеры 340 злотых. Таксама не без грашовага хваста. У наступным лісце, які я атрымаў праз пару дзён, з больш ці менш такім жа зместам, сума зменшылася да 34 злотых, ужо без хвосціка. Знік таксама запіс аб іску. Гэтыя кошты таксама паўтараюцца ў трэцім і чацвёртым лістах, якія былі пасланыя мне ў бліжэйшыя дні. Усе яны былі добрасумленна аштампаваныя круглай пячаткай з выявай дзяржаўнага герба — арла ў кароне. Эх, ці гэты арол таксама не паважае грамадзяніна!? Ці, можа быць, гэта судовы выканаўца так запэцкаў павагу арла — несвядома... У любым выпадку, кіруючыся зместам апошніх трох лістоў, больш я не мушу за свой «пачын» лішку «падатковага выліку» заплаціць штраф, але павінен плаціць! Гэта неадпаведнасць моцна мяне збіла з панталыку. Я не ведаю, за што я павінен заплаціць, і колькі. Але колькі? 340 ці 34 злотых — у абодвух выпадках з цалкам асобным хвосцікам. Так, я надзею на сябе абалонку ўпартага кляшча і патэлефанаваў судоваму выканаўцу, колькі і за што я маю заплаціць, і чаму пасля 7 гадоў, а не, напрыклад, пасля 20, калі штрафу было б сотні злотых. Судовы выканаўца адмахнуўся ад адказу, паслаўшы мяне ва Управу горада Беласток. Я дазваніўся да іх пасля шматлікіх спроб, і даведаўся, што ў той момант, калі справа была перададзена судоваму выканаўцу, маю пытацца выключна ў яго.

**Міраслаў ГРЫКА**



## Сваімі вачыма

# Праедзеная свабода

Як не глядзі, а месяц верасень прыкаціўся ўжо на панадворкі і навеяў восеньскія думкі ў нашы душы і галовы. Багацце садавіны і гароднiны зараз дазваляе любавацца ў поўнай красе еймі колерамі, пахамі і смакамі. Крыху ранавата бачна і чутна крокі восеньскай пані-натуры. Буслы намнога раней сталі збірацца на скошаных лугах і на два тыдні раней адляцелі з нашага сіняга неба. Зноў на буслiны клёкат прыйдзецца нам чакаць да наступнай вясны. Ну, вядома, калі яшчэ дажывем да гэтай пары. Бо з латарэяй жыцця бывае па-рознаму і невядома, які падарунак нясе яна ў любую хвіліну.

Незаўважна і хутка, яшчэ жнівеньскай парой, даспелі каштаны, расцвілі восеньскія кветкі. Нават вінаград ужо даспеў і аматары хатняга віна цешацца на добра спелую ягаду, з якой павінна быць неблагое пітво.

Нават каты і сабакі абліліся жырнасцю, быццам прадвяшчаючы марозную і хуткую зіму. А можа проста столькі яды знаходзіцца пад іхнімі пысамі, што спрацоўвае тут хутчэй сіндром ненажэрнасці ў любую хвіліну. А ўсёй яды не пераесці нават сабачаму роду. А каты і сабакі так распанелі на гэты конт, што на думку майго бацькі жывуць і ядуць лепей за людзей. Цяжка сабе ўявіць такое ў недалёкім мінулым, нават у маім дзяцінстве. «Да дабра ў жыцці гэта не давядзе, — кажа ён, — бо цяпер то я мушу пільнаваць свайго сабаку, каб яго не ўкралі, калі ён проста спіць цэлымі днямі пасля чарговай перакускі». А пабачыць ката са злоўленай птушкай ці мышшу гэта навіна на ўсю вёску. Бо вакол хат і на ганках пад нагамі валяюцца толькі банкі з размалёванымі кацінымі пысамі, якія задаволена аблізваюцца ад звараных спецый. Калі параўнаць цэны і склад тых кансерваў, то яны даражэйшыя і больш смачныя за тыя падрыхтаваныя для чалавечага карыстання. Сам бачыў, як кот фыркнуў і адвярнуўся хвастом, калі гаспадар падзяліўся з ім сваёй тушонкай. А ўжо пра тое, што дастаткова накарміць хатнюю жывёлу міскай ранішняга супу, проста забудзь. Нават не хлебане ані разу. Толькі мяўкне ў чаканні ласункаў, на якія глядзяць разам з гаспадарамі ў чарговых рэкламных роліках у тэлевізары. Мой сябра Міша распавёў мне пра розніцу ў псіхіцы сабак і катоў. Вось, што думае сабака пра гаспадара: «Ты мяне корміш, трымаеш дах над маёй галавой, захварэю, вязеш да лекара. Ты — безумоўна Бог». Кот думае: «Ты мяне корміш, трымаеш дах над маёй галавой, захварэю вязеш да лекара. Я — напэўна Бог». Вось такія назіранні за самымі блізкімі жывёламі і галоўныя розніцы ў іхніх характарах.

Падсумоўваючы, трэба сказаць, што стаўленне да свету нашых малодшых братоў значна змянілася ў лепшы бок для тых другіх. Набываюць яны ранг сямейнікаў, вакол якіх пачынае кружыцца ўсё сямейнае жыццё. Адным словам хвасты сапраўды варочаюць чалавечымі галовамі.

Такое жыццё мае і свой сарамлівы момант. Менавіта фізіялогія патрабуе рэгулярна ачышчаць свае страўнікі. Самы просты спосаб — засраныя газоны пад нашымі шматпавярховымі дамамі. Паверце, жыву ў адным месцы ўжо больш за дваццаць гадоў, але за ўвесь гэты час не бачыў аніводнага сабакара, які прыбірае па сваім сабаку. Наадварот, вельмі часта яшчэ спускае яго з павадка, да таго без намордніка. Перапалоханыя дзеці, ці звычайныя людзі перажываюць моцны стрэс у такіх сітуацыях. Але звярнуць увагу такому ўласніку сабакі, то тое ж самае, што пачаць міжсуседскі канфлікт павышанай ступені бяспекі. Ні просьбы адміністрацыі, ні суседскія заўвагі не дапамагаюць, калі на калідоры, ці ў ліфце сабачыя экскрэменты валяюцца навідавоку. Здаецца, гарадская страж павінна ў гэтай справе быць больш пільнай і акуратнай для патрабаванняў агульнагрмадскага парадку і чысціні. На свае вочы не бачыў я ў сваім квартале гэтай службы, якая хаця б раз правяла акцыю ўсведамлення людзей з сабачкамі і сабарнамі на павадку. Ну і з’ява таксама характэрная для некаторых сабак у блёку — патрапяць яны доўга выць вельмі плаксівым голасам. Аж дрыжыкі бягуць па спіне. І тады думаеш, што кватэра гэта не месца для сабак і іхняга шчасця. Жыць на панадворку — гэта прастора свабоды не толькі жывёльнага роду.

**Яўген ВАПА**

**Шаноўныя чытачы. Прапануем Вашай увазе фрагмент новай кнігі прозы Міхася Андрасюка пад загалоўкам “Поўня”. Кніга будзе выдадзеная нашай рэдакцыяй да канца гэтага года.**

# Поўня

Мне спаўнялася пяцьдзясят і я ехаў у гэты горад усяго на адну хвіліну, неабходную, каб вырваць Юлію з абдымкаў шкла і бетону, і рушыць далей, туды, дзе ў жылах свету бурліць жывая, зялёная кроў. Насамрэч я ехаў развітацца з жанчынай, але пакуль яшчэ аб тым не ведаў.

Ніколі не маем упэўненасці, куды прывядзе дарога і якім словам сустрэне нас месца, назначанае ў маршруце. І не ведаем, ці дарога „туды”, без залішніх торгаў, перадасць нас дарозе „назад”. Ёсць толькі спадзеў на шчаслівае вяртанне дамоў.

Жанчын у маім жыцці і не замала было, і не зашмат, дакладна столькі, колькі імёнаў зможа захаваць памяць, каб ніводнае не загубілася, не пазбавілася вуснаў, вачэй, голасу.

Быў я з маімі жанчынамі ні коратка ні доўга. Час, канешне, не бывае адзін для ўсіх, ды і цячэнне яго, наперакор гадзіннікам і календарам, мяняецца. Час стрымгаловіць, час ідзе, час сноўдае нага за нагой. Ці спыняецца? Не ведаю. Калі заходзіць у вечнасць, мабыць так, дазваляе спыніць сябе, заваружаны яе заманлівымі абятніцамі.

З маімі жанчынамі я быў да тае хвіліны, пакуль час, дадзены адзін на дваіх, не стане паваротлівым на сцежку аднастайнасці і манатоніі. Яшчэ да першых сівых валасоў я зразумеў: паставіш на гэтай сцежцы на крок-два зашмат і ўжо ніколі з яе не вернешся. Рана — позна прывыкнеш да банальных слоў на прывітанне новага дня і абыякавым позіркам будзеш сустракаць раніцу, што карабкаецца з руцінна пакамечанай пасцелі.

Жанчыны прыходзілі і сыходзілі, забіраючы з сабой частку мяне — хто слова, прашаптанае пяшчотай, хто заблуканае ў вачах рэха смутку, а хтосьці ўсяго толькі халодны дотык рукі, малаважны драбок солі, што на першых ростанях кідаеш за сябе, праз плячо, не азіраючыся ў прошласць.

Сваё жыццё я б не назваў ні доўгім, ні кароткім. Пяцьдзясят, як ні глядзець, ажно на тры прабегі вакол Сонца больш за даўно завершаны шлях дзеда Дзмітрыя і ўсяго палова той дыстанцыі, якую адолеў дзед Ляксій, а некаторыя мяркуюць, што ён усё яшчэ ў дарозе, хаця даўно ніхто яго не чуў і шмат гадоў ніхто не бачыў. Кажуць — ён ходзіць дзесьці там. Я таксама схіляюся да думкі, што дзесьці там, мабыць і цалкам блізка, існуюць прасторы няшмат адрозныя ад нам вядомых. Ёсць там дрэвы і птушкі, кветкі і камяні, і толькі дарогі там не такія, як у нас. Пазбаўленыя нечаканых скрыжаванняў, а кожны паварот, заўчасу нанесены на карту памяці, не хавае за сабой ніякай таямніцы. Бо і вядуць яны з будучыні ў мінуўшчыну, з невядомага ў вядомае, і некалі перасякаюцца з нашымі, што спяшаюць якраз у адваротным накірунку. Перасякаюцца ў снах.

Сны прыходзяць, калі зачыняюцца вочы. А з чаго пачынаюцца дарогі? Ці з таго моманту, калі адчыняеш дзверы і пераступаеш парог? Шмат гадоў іду і не ведаю, што ёсць дарога. Мабыць, пераступіўшы парог у сон, толькі тады і даведаешся? — сказаў аднойчы дзед Ляксій. Але ж можна лічыць адказам ягоныя словы, калі за апошнім стаіць пытальны знак?

Калі ў далёкай маёй і маіх аднагодкаў маладосці дзеду Ляксію споўнілася сто, адвячоркам, у дзень святога Аляксея, ён пагаліўся, памыўся, сваімі рукамі разабраў пасцель у вялікім пакоі. Апрануў чыстую, белую кашулю і галіфэ, наваксаваў хромавыя боты з халявамі. Гэтыя боты надзеў ён упершыню з таго дня, калі старгаваў іх у савецкага разведчыка, не распытваючы залішне якім шляхам афіцэрскае дабро дайшло да рук радавога жаўнера.

На гэтым лясным запечку, куды задалёка ўсім, хто нясе з сабой дабро, і заўжды па дарозе ўсялякім разносчыкам благой справы, людзі навучыліся па-свойму жыць, па-свойму між сабой размаўляць, моўчкі сустракаць няпрошаных гасцей і слухаць адказы не задаючы пытанняў.

Завяршыўшы соты паход вакол Сонца, дзед Ляксій паклаўся ў ложак, папрасіў запаліць грамнічную свечку і пагасіць святло. Дочкам, здумёным незвычайным ходам падзей, загадаў выйсці на кухню і зачыніць за сабой дзверы. Прыйдзе пара, я вас паклічу, дадаў на развітанне.

Праз невялікі прамежак часу, калі занепакоеныя цішынёй сямейнікі адчынілі дзверы, у пакоі было пуста. Халодны вечаровы скразняк прабегся з пакоя на кухню, павярнуў назад, шмаргануў занавескі і праз адчыненае акно скокнуў на вуліцу. Пламеньчык хістануўся, але не пагас. Найстарэйшая дачка ўзяла свечку, патушыла, праводзячы яе крыж накрыж над пустуючай падушкай. Кнот апошні раз мігрануў чырвонай зрэнкай і сіні дымок, склаўшыся ў вужаватую нітку, пасунуўся да акна і далей, праз панадворак, на загуменне, туды, дзе на чорных сценах пушчы густая ноч паставіла свой чорны дах.

— І куды ён дзеўся? — успляснула рукамі малодшая дачка.

— І ўгару дым не падымаецца, і па хаце не сцеліцца. Ні да праведнікаў душа, ні праз пакуты, — прашаптала сярэдняя, зачыняючы акно.

— Ён цяпер тут, ён у нас, — сказала найстарэйшая, дакрануўшыся далонню да грудзей, там, дзе б’ецца сэрца.

Мне споўнілася пяцьдзясят і я не думаў ні пра дзеда Дзмітрыя, ні пра дзеда Ляксія. Я чакаў Юлію. Дзень ішоў на спад, жнівень шпарка крочыў насустрач верасню, а я чакаў Юлію ў краіне, што нарадзілася шэсць гадоў пазней за яе. З’явілася, калі ніхто на тое не спадзяваўся, калі ўсе валадары свету прызналі Еўропу старой заваловай, пустой, стэрылізаванай, з завершанай гісторыяй, запісанай на вялікім трыбуху, з канчатковай кропкай, пастаўленай на абвіслай фалдзе скуры, што жывым прабоем замыкае вагіну. Шчыльна і назаўсёды. Тады нарадзілася Беларусь.

Я чакаў Юлію ў сталіцы гэтай маладой краіны, а за акном разгорталася панарама вялікага горада. З дваццатага паверха Праспект Газеты “Праўда” выявіўся мне лянівай рэчкай, дзе радасць нясецца ўпоруч са смуткам, сляза з усмешкай, каханне з нянавісцю. Глыбокая на дваццаць паверхаў прорва зніто̄ўвае людскія лёсы так шчыльна, што народзіны, жыццё і смерць губляюць свае імёны і ананімныя жывыя, не спавольваючы крок, безэмацыйным позіркам праводзяць ананімных мёртвых.

У вялікім горадзе я адчуваю сябе няўтульна. Абадраны з таемных знакаў, з адціснутых на пяску слядоў — сваіх і тых усіх, хто ішоў раней — блытаю накірункі свету, трачу арыентацыю, плыву па цячэнні на ўсход або на захад. Пералічваю крокі і збіваюся з ліку на першым скрыжаванні.

На ўсе мае спробы завесці гутарку вялікі горад адгукваецца чужым голасам. Застаецца маўчанне.

Усё пачалося, калі рэйсавы аўтобус выплюнуў мяне на Бабруйскай вуліцы, бразнуў дзвярыма на развітанне і пакаляціў шляхам свайго прызначэння. Я набраў у лёгкія глыток сталічнай раніцы, упэўніўся, ці стаяць на месцы Вароты Мінска, ці не разбурыў іх мясцовы гаспадар у нармальным тут шаленстве рэканструкцыі ўсяго, што патрапіць пад рукі. У адным з гэтых дамоў мне прыйдзецца жыць бліжэйшыя тры дні. Вароты віднеліся некранутымі. Супакоены, не спяшаючы, я скіраваўся на чыгуначны вакзал, кубачкам моцнай кавы адбівацца ад соннасці і стомы, што падселі ў дарозе з Беластока ў Мінск, палічыўшы мяне — ці не слушна — надзейным спадарожнікам. За такім жа кубкам кавы па другі бок століка сядзела дзяўчына. Паклаўшы галаву на далоні, рассунутыя пальцы запусціла ў валасы. У ранішнім, да канца не саспелым святле, яе рудыя кудзеры змахвалі на светла-чырвоны арэол, своеасаблівае вогнішча, у якім датла спапяляюцца ўсе чалавечыя грахі.

Ступаеш у такі агонь і выходзіш з яго чысты, нованароджаны, прашаптала мроя. Заходзіш у агонь і знікаеш, застаюцца прыгаршчы попелу, уздыхнуў розум. Але мроі крылатыя, яны авалодалі майстэрства палёту не горш за птушак і крылы іх моцныя, калі даць ім волю, найвялікшы камень панясуць да воблакаў, як нітку бабінага лета.

Я апускаў вейкі і вачыма ўяўлення бачыў Рафаэля Санці. Па прыступках Сабору Святога Пятра ён падымаецца на рымскае неба, дакранаецца пэндзлікам да чыстага блакіту і тры Грацыі адпускае на волю. І першая Грацыя, яе завуць Прыгажосць, раскладае вогнішча рудых валасоў над касцёлам Сант-Эліджа-деллі-Арэфічы. Другая Грацыя, яе імя Каханне, крыліць над касцёлам Санта-Марыя-дэль-Попала. І яшчэ трэцяя, яе клічуць Нявіннасць, кіруецца на ўсход, над маленькае, роднае Маэстру Урбіна. Маэстра, прыўважыўшы маю зацікаўленасць, падміргнуў і знік.

З каменнага паркету выпаўзаў холад, поўз па лытках, па сцёгнах, рассыпаўся па спіне ледзянымі дрыжыкамі. Кава марудна рабіла сваю справу, тым не менш, нат не выходзячы з паўсну, я, пачуў, як мёртвы, каменны холад ажывае, абаграваецца цёплым дыханнем маёй скуры, пераўвасабляецца ў жывы, чалавечы страх: усё гэта — ілюзія, расплюшчу вочы і вобраз дзяўчыны згасне, застанецца чысты, белы экран.

Вобраз не згас. Дзяўчына сядзела на ранейшым месцы, па другі бок століка, адмежаваўшыся рудой занавескай ад нахабных прапаноў вакзальнай каруселі. Раніца, штурханутая сонцам, разганялася, вышэй падымаліся хвалі новага дня, наступалі на дзяўчыну, адступалі, але яна заставалася непарушнай, як маяк на каменным беразе ашалелага акіяна. Усе мае думкі плылі на яркае, рудое святло. Раптоўна, моцна, неадкладна ўзнікла жаданне ўбачыць яе твар. Вочы. Вусны. Я шукаў словы, якія б спакусілі яе выйсці са схованкі, павярнуцца тварам да свету. Падбіраючы галасы, я рабіў накід першых сказаў, што прыадчыняць дзверы ў размову, павядуць яе далей. І мне не хацелася думаць, якія сцежкі хаваюцца за словам „далей”.

— Ты Прыгажосць, — пачне страсны шэпт, а дзяўчына абыякава пацісне плячыма: „Ведаю, не адзін раз чула”.

— Няўжо завуць цябе Нявіннасць? — голас падстроіцца пад маладзёвую бесцырымоннасць і пачуе ў адказ: „З незнаёмымі не размаўляю”. І плечы дзяўчыны ўздрыгануцца ў кароткім, пагардлівым „пайшоў ты”.

— Я ведаю, цябе завуць Каханне, — ласкавай інтанацыяй падсунецца да дзявочага вуха цёплы бас. — Ну, глядзі, ад кахання да нянавісці менш за адзін крок, — папярэдзіць, не выходзячы з ценю рудога вогнішча.

Кніга за кнігай я перачытваў усю сваю хатнюю бібліятэку. Узнаўляў у памяці гутаркі на ўсіх даступных мне мовах, і нават, хаваючы сорам, прыводзіў на памяць чужыя размовы, што невыпадкова, з-за простай чалавечай цікавасці, праслухаліся краем вуха.

Ніводнае з вядомых мне слоў не паказалася вартым яе ўвагі.

— Ты, дачка Сонца? — зусім нечакана я пачуў тры словы, завершаныя пытальным знакам. Быў гэта голас маёй генетычнай памяці, сатканай з усіх мужчынскіх галасоў, расцягнутай ад дадзенай хвіліны да вытокаў свету. У такім голасе непакорлівая ільняная нітка падпарадкоўваецца мяккай, шоўкавай і нямая пяшчота вачэй бярэ перавагу над рашучай мовай мужчынскіх далоняў. А генетычная памяць сочыць уважліва і, улавіўшы момант, своечасова, вяртае голасу належную моц і ўпэўненасць. І голас паўтарае: „Так, ты дачка Сонца!”.

Дзяўчына падняла галаву і высунулася з-за рудой шырмы. Паглядзела на мяне і адмоўна пакруціла галавой.

— Не, я дачка Аляксандра і Аргумы.

Спакойны голас, сур’ёзны твар і ўпэўнены ў сабе позірк прывялі мяне да думкі, што ў гэтай вось маладой краіне ўсё яшчэ застаецца ў першапачатковым выглядзе. Нібыта і пайшоў працэс стварэння сусвету, слова вольнай птушкай прарвалася з нябыту, але зямля і неба надалей застаюцца неразлучнымі, і ніхто не здзіўляецца, калі дзеці Сонца нараджаюцца побач з дзецьмі Аляксандраў, Канстанцінаў, Уладзіміраў.

Ад слоў, што спакойнай птушкай зляцелі з яе па-дзіцячаму пухкіх вуснаў, ад сур’ёзнага голасу, які ніяк не сыходзіўся з далікатным тварам, я на кароткі момант разгубіўся. Ірацыянальнае жаданне не адпускаць яе, працягнуць размову, падкінула на язык самае простае, што з большага звязалася ў сэнсоўны сказ.

— Незвычайнае імя, Аргума.

— Тут незвычайнае, там, дзе я нарадзілася звычайнае.

— Нарадзілася.... там?

— Ага, там, — адказала загадкай. Схілілася, аднекуль, з-пад ног, дастала заплечнік, паднялася з-за століка, павярнулася спінай і, не сказаўшы ні слова, накіравалася ў той бок, дзе на вялікай сцяне бяздушная машына выткала павуцінную сетку чалавечых лёсаў, чаканых сустрэч і нечаканых развітанняў, і назвала яе „расклад адпраўлення цягнікоў”.

**Міхась Андрасюк**

## Дэмаграфія Дубіцкай гміны

Дубіцкая гміна Гайнаўскага павета налічвае 1558 жыхароў. У ёй 28 вёсак і вёсачак. Шчыльнасць насельніцтва 11 чалавек на 1 квадратны кіламетр. Тут на 100 мужчын прыпадаюць 102 жанчыны. Зараз 14 % жыхароў гэта ўдаўцы і ўдовы. Удоваў значна больш чымсьці ўдаўцоў.

Да найбольшых і сярэдніх вёсак належаць Грабавец — 244 жыхары, Дубічы-Царкоўныя — 243, Ягаднікі — 151, Тафілаўцы — 128, Стары Корнін — 116, Карыціскі — 94, Чахі-Арлянскія — 79, Вітава — 78, Вэрсток — 59, Елянка — 51 і Войнаўка — 49. Ад 10 да 40 жыхароў маюць вёсачкі Краскоўшчына — 10, Пяскі і Сямівалокі — па 12, Бобінка і Пасечнікі-Малыя — па 16, Старына — 18, Вілюкі — 22, Доўгі Брод — 23, Гурны Груд — 24 і Рутка — 36.

Маленькіх паселішч у Дубіцкай гміне шэсць: Забагоне — 9 жыхароў, Круглэ — 5, Выган, Клякава і Нікіфароўшчына — па 2 ды Якубова — толькі 1 жыхар. Пабольшала жыхароў у Елянцы (на 1), Вітаве (на 2) і ў Гурным Грудзе (на 6).

У мінулым годзе ў Дубіцкай гміне нарадзілася 15 дзяцей (гэта больш чымсьці ў папярэднія гады, тады было 5 або 7, а найбольш 10 дзяцей), памерла 39 асоб і 12 пар святкавала 50-годдзе шлюбнага супольнага жыцця (сёлета залатое веселле згуляе 10 пар). **(яц)**

## Больш лепшых дарог

У апошнія гады ў Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета пабудавалі новыя асфальтавыя маставыя на некаторых дарогах і вуліцах. Зараз з Нараўкі маем асфальтавыя дарогі, між іншым, у Ахрымы і Капітаншчыну ды ў Бярнацкі Мост. Новую асфальтавую маставую на вясковай вуліцы атрымалі жыхары Крыніцы і Гарадзіска.

У Нараўцы асфальт паклалі на вуліцах Агародавай, Маёвай, Ціхай, Вузкай, Надрэчнай і на пасялковай вуліцы на жыллёвым блокавым пасёлку каля школы і бензастанцыі для заправак аўтамабіляў ды нядаўна новую каляровую брусчатку на вуліцах Водаправоднай, Крынічнай ды на адрэсках вуліц Міцкевіча і Новай. На частцы вышэйзгаданых вуліц Міцкевіча і Новай, там, дзе зараз маставая з брусчаткі, пабудавалі новыя тратуары і ўезды на панадворкі ды насупраць Гміннага асяродка культуры і Гміннага асяродка здароўя вельмі тут патрэбную даволі прасторную стаянку для аўтамабіляў (на 25 месцаў). Яна пачынаецца ад скрыжавання трох вуліц Новай, Гайнаўскай і Каляёвай. **(яц)**

## Дажыначны фэст

У нядзелю, 2 верасня гэтага года войт Нараўчанскай гміны і дырэктарка Гміннага асяродка культуры ў Нараўцы Гайнаўскага павета запрашаюць на дажыначны фэст, які адбудзецца ў нараўчанскім амфітэатры над ракой.

У праграме вышэйзгаданага асенняга мерапрыемства, між іншым, экуменічная малітва, падсумаванне конкурсу на найпрыгажэйшую сялянскую сядзібу і агратурыстычную кватэру ў Нараўчанскай гміне, падвядзенне вынікаў спаборніцтва супрацьпажарных каманд ОСП у гміне, агляд дажыначных вянкоў ды мастацкая частка.

Пачатак вераснёўскага фэсту а гадзіне 15-й. **(яц)**

# АРХЕАЛАГІЧНАЯ СЕНСАЦЫЯ З ВЯЛІКАЙ ЯЦВЕЗІ



На Падляшшы адкрылі гарадзішча, якое можа быць старэйшае за Біскупін. Археолагі на лугах у вёсцы Вялікая Яцвезь, што ў гміне Сухаволя, знайшлі стаянку, якой сама меней 2,5 тысячы гадоў. Адкрыццё ў Вялікай Яцвезі гэта адно з найбольш каштоўных археалагічных знаходак на тэрыторыі Польшчы за апошнія гады.

**Вялікая Яцвезь як Біскупін**

Вёсачка, распалажана 50 кіламетраў на поўнач ад Беластока, стала вядомай на ўсю Польшчу. Менавіта тут археолагі Падляшскага музея адкрылі стаянку, якая паўстала між VIII і VI стагоддзямі да нашай эры. Гэта абазначае, што яна параўнальна так старая, як гарадзішча ў Біскупіне. Адкрыццё шакіравала археолагаў, якія падкрэсліваюць, што на гэтай тэрыторыі ніколі раней не было знойдзенае гарадзішча абарончага тыпу гэтага перыяду.

— На цяперашні момант гэта адзін з найстарэйшых абарончых аб'ектаў, якія вядомы на тэрыторыі Падляшша, — сказаў на месцы раскопак археолаг Падляшскага музея Адам Ваўрусевіч. — Дагэтуль нам было вядома шмат такіх абарончых аб'ектаў і ў пераважнай большасці іх аўтаматычна прыпісвалі да перыяду ранняга сярэднявечча. А нашы даследаванні сведчаць, што прынамсі частка гэтых аб'ектаў нашмат старэйшая і паходзяць з позняга бронзавага веку.

Знойдзенае паселішча круглае, дыяметрам больш за 80 метраў. Цэнтральная частка пасёлка — так званы майдан, дзе знаходзіліся дамы і гаспадарчыя памяшканні, складае каля 1000-1200 квадратных метраў. Гарадзішча было акружана равамі і валамі.

— Можна простым вокам заўважыць узвышанасць на месцы, дзе раней быў вал, — сказаў на месцы раскопак археолаг Падляшскага музея Аляксандр Пясэцкі. — Гэта не самае вялікае гарадзішча, знойдзенае на Падляшшы, але адно з большых.

**Сенсацыйнае адкрыццё**

Навукоўцы не будуць раскопваць цэлай тэрыторыі, на якой знаходзілася гарадзішча. Хочуць пазнаць яго храналогію і развіццё ды захаваць для будучых пакаленняў.

— Няма такой патрэбы, каб капаць на ўсёй тэрыторыі аб'екта, — патлумачыў археолаг Аляксандр Пясэцкі. — Грошы варта таксама прызначыць на раскопкі іншых гарадзішчаў, распаложаных паміж Бобрай і Нарвай. Такіх не даследаваных яшчэ дзвацца.

Навукоўцы на працягу наступнага тыдня будуць даследаваць тэрыторыю. Пазней месца вернецца да зыходнага стану, таму што таго патрабуюць кансерватарскія законы. Матэрыял даследавання, аб'екты знойдзеныя на тэрыторыі раскопак трапяць у Падляшскі музей у Беластоку. Археолагі лічаць, што на тэрыторыі Падляшша можа знаходзіцца больш слядоў па развітых цывілізацыях бронзавага веку. На самой Сакольшчыне знаходзіцца шмат раннесярэднявечных гарадзішчаў, між іншым, у Трасцянцы, Ласосне, Бахматаўцы ці Мілеўшчыне, у якой зараз паўстае Культурны парк за 4 мільёны злотых. Аднак, як падкрэсліваюць археолагі, менавіта знаходка ў Вялікай Яцвезі пралівае новае святло на гісторыю нашых зямель.

— Сенсацыя, якую выклікала знаходка, заключаецца ў тым, што на працягу многіх гадоў лічылася, што на нашых землях у перыяд бронзавага веку пераважала так званае мяккае рассяленне, — тлумачыць Адам Ваўрусевіч. — Жыхары такіх паселішч спыняліся на канкрэтным месцы толькі на кароткі час, перамяшчаліся, ставілі буданы ў розных месцах. Тым часам тое, што нам удалося тут знайсці, сведчыць, што было інакш. Спосаб будовы паселішча, яго абарончы характар цалкам мяняе погляд на людзей, якія жылі ў той час. Тут жыла супольнасць. Пабудова абарончага гарадзішча патрабуе канкрэтных здольнасцей. Хтосьці вызначыў месца, размеркаваў задачы, кіраваў. Была іерархія.

Над раскопкамі працуюць археолагі Падляшскага музея ды студэнты Універсітэта імя Адама Міцкевіча ў Познані і Варшаўскага ўніверсітэта. Сабраны матэрыял трапіць у Падляшскі музей, дзе будзе дакладна апрацаваны. З часам паўстане публікацыя на тэму гарадзішча.

**Што яшчэ хавае Сакольская зямля?**

Вялікая Яцвезь — былое польска-літоўскае памежжа, а яшчэ раней польска-яцвяжскае і моўнае. Яе жыхары — паводле дыялекталагічных доследаў 1955 года — гаварылі яшчэ на беларускай мове з выразным мазурэннем.

— Зараз такіх ужо не знойдзеш. Хіба, што старэйшыя, але таксама толькі пры застоллі, — смяецца Рафал Вяжбоўскі, сын уласніка зямлі, на якой вядуцца раскопкі. — Я сама вярнуўся з Англіі. Прыйшлі да нас, пытаюцца ці можна капаць, але наказ і так маюць. Мы не мелі нічога супраць. Касіў той луг раней. Тут заўсёды шмат камянёў ляжала. Я ніколі не падумаў, што такое тут знойдуць. А колькі зараз у вёску людзей прыязджае!

Але гэтая мясцовасць раней таксама карысталася зацікаўленнем краязнаўцаў і энтузіястаў яцвяжскай культуры, ад якой вёсачка ўзяла сваю назву. Паводле археалагічных доследаў, якія вяліся тут 50 гадоў таму, на акраіне вёскі знаходзіцца яцвяжскі могільнік.

— У нас па вайне людзі тыя камяні пазабіралі пад будынкі. Нібыта пачало іх нешта страшыць, таму пакідалі іх назад. Таму яны так дзіўна раскінуты, — тлумачыць Рафал. — Прынамсі так гаварыла мая бабуля, але пэўна толькі палохала.

Археалагічная сенсацыя прыцягнула ў Вялікую Яцвезь не толькі журналістаў, краязнаўцаў і энтузіястаў знаходак, але таксама людзей з суседніх мясцовасцей. Карыстаючыся прысутнасцю археолагаў, людзі прыходзяць да іх са шматлікімі пытаннямі. Канфрантуюць народную гісторыю, якую ведаюць з дамоў, з гэтай навуковай.



— Паглядзіце, гэта яшчэ знайшоў мой бацька. Бацькі ўжо даўно няма, але той камень берагу, — сказаў спадар Станіслаў з суседняй Баброўкі. — У нас тут навокал нейкія горкі, камяні. Тут год варта пасядзець і пакапаць.

Невялікі белы каменьчык, прынесены спадаром Станіславам, аказаўся чарговай археалагічнай жамчужынай. Навукоўцы сфатаграфавалі знаходку і ўдакладнялі, дзе яна была знойдзена.

— Гэта сякера для расколвання, — ацаніў знаходку археолаг Аляксандр Пясэцкі. — Яна яшчэ старэйшая за наша гарадзішча.

**Фота і тэкст Улі ШУБЗДЫ**

# ХАРОШЫ ГАЛОША



Сеўрык Галоша любіць міфы. Кажа, без міфаў няма грамадства. Калі іх няма, дык трэба стварыць. Мала, што выдумаць, але і распаўсюдзіць весткі пра іх. Увесці іх у быль. Расказаць так, каб паверылі людзі. Каб якія варшавякі ўвялі іх у кніжкі, у краязнаўчыя даведнікі. Каб госці, прыехаўшыя ў наша старонне, з лякам і павагай набліжаліся да нашых чароўных месцаў, каб каля іх спынілі свае ровары ці аўто, схацелі адчуць моц і набраць яе ў сябе.

Наконт моцы, дык Сеўрык яе адчувае. Нездарма яго завуць яшчэ Турам. Бо што то за прозвішча — Галоша. Хоць старое, радавое, з-пад пушчы. Яшчэ было і Сук, Сук-Галоша, але таго Сука сабе даравалі. Бо была праблема пры жаніцьбе — калі дзеўка была, скажам, Мядзведзь, дык калі б мела мець падвойнае прозвішча, па мужу, дык было б Мядзведзь-Сук-Галоша. Быццам бы нейкі пушчанскі заклік, які ў нетрах не гучыць забаўна, але не на вуліцы ў мястэчку, або не дай Бог у Беластоку! Севярын Галоша чуе моц у сваёй крыві сваіх кроўных сваякоў, якія пару соцень гадоў тапталіся ў ваколіцы, сеялі, аралі, малацілі, хлеб пяклі, закладвалі петлі на звярыну. «Плёнтка» празывалі ў маладосці яго татку, майстра ў лоўлі меншай дзікай звярыны ў драцяныя петлі. Уладзь Галоша, той хударлявы «Плёнтка», плёнтаўся па свеце, прымачок у кулачок, гаспадарыў на жончыным, увесь згорблены пад яе абцасам. І ніколі не падскочыў ні Нюрцы, ні свайму Сеўрыку, адзінаму сыночку. Сеўрык быў маміным сыночкам, улюбёнцам. «Хаёшы мой Сеўічак» — хвалілася Нюрка. Бо і было на што паглядзець: удаўся ў яе, чарнявы, стройны. Не то як той няўдалы муж, той Уладзь прыгорблены, з запалымі шчокамі. Яна сама як півоня, што распаўнелая гарыць чырванню ў яе агародчыку. Ледзь дрыпча той Уладзік, тры пядзі ад зямлі, але гаспадарыць. Ды ніхто яго не слухае, ні кабыла, ні авечка, хоць напружвaецца, верашчыць так, што ледзь не лопне. І да людзей такі варавіты, злосны — а як будзеш сябе адчуваць, калі глядзяць на цябе як на пустое месца? А ўсім дзіўна — вось такая мурашка, а зрабіла такое сынішча, проста волата! А, можа, гэта не ён яго тварэц? Нюрка вечна тырчала, упраўіўшыся, аперршы свае разложыстыя пухнатыя грудзі аб плот, бы кагось выглядала. Ну і магла давыглядацца. Сынок-Тур мог удацца і ў яе. І ў суседа, Спрытнага Зюніка, які аббег усе вольныя і нявольныя бабы ў ваколіцы. А мог быць і кожны іншы здаровы мужык — пад хатай Нюркі і Уладзя Галошаў прабягала шырокая вуліца, з аднаго боку з лавачкамі, з другога — у большасці з выганамі пакрытымі гушчаром чарнасліву праросляга хмелем, раскусцелымі маладымі ліпкамі. Хто ехаў, з ахвотай спыняўся пры Нюрчыным плоце, любаваўся квеццем і пышнай гаспадыняй, заглядваў у яе глыбокія галодныя вочы...

Калі гаворка пра міфы і чароўныя чорныя вочы, дык Нюрка Галошава і яе цыганскі пагляд сталі адным з незабыўных элементаў ваколіц. «Сеўрык, мусі, які цыганскі сын? Такі «хаёшы», статны... А чаму ж ён дзеўчыны сабе не знойдзе? А, можа тая яго вучонасць, бо ў кніжках усё сядзіць, усе кнігі ў гміне папрачытваў, не дае яму доступу да звычайных дзяўчат. Або і кабет...». Бо дзяўчаты «кончыліся» — няма ў чым перабіраць. Ужо і за ўдовамі, і за пакіндамі аглянуўся. Ну, там, вучонасць. Хоць прыгожы, але ж за каўнер не вылівае. Або, можа, палохае дзяўчат — як сядзе на свайго міфічнага канька, дык яго не спыніш. Замест за дзеўку ўзяцца, пачынае пра тое, што ў тым ды ў тым квартале пушчы стаяў храм, той, што пад зямлю праваліўся. А то пры дарозе ў суседнюю вёску стаіць валун-цар, што яго ніякая не прырода сюды прыкаціла, а людзі. Непадалёк таго каменя, вось, незавершаны каменны круг стаіць. Нічога, што кажуць, што ў гэтым месцы быў гмінны сметнік, у які выкідвалі старую нямодную мэблю і трупы падохлых звяроў. Там цудадзейнае месца, хочаш — я цябе туды завяду, адвячоркам, і адчуеш тую моц. Праўда, некаторыя кабеты з Сеўрыкам туды заходзілі. Ды пакуль што да чаго, кавалер распавядаў байкі, замест пераканаўча заняцца дамай. У апошні час водзіць туды варшавянак. Панюсі дзыгаюць па купінах, вытрасаюць пясок са шпілечак, адбіваюцца ад жамярвы, а Сеўрык расказвае пра розныя жахі, ад пачатку свету, праз час калі тут сядзелі яцвягі, аж да тутэйшых цудаў, што падымаюць шапку на галаве нават бывалым.

Праўда, неяк мала сталі верыць нетутэйшыя панечкі Сеўрыку, бо нясе ад яго духам, праўда, не нячыстым. «Часам віна брак!» — мармыча Сеўрык пад носам, узіраючыся ў нейкую бабку, добра нафарбаваную, стараючыся знайсці ў ёй красу, мілавіднасць і чар. А хочацца яшчэ і папулярнасці. Быў момант, што рашыўся «падарваць» вядомую вясковую паэтэсу Гэльцю. Бадзёрая пенсіянерка аж пакацілася ад смеху: «Сеўрык, мела я свайго Федзьку, ведаю, што за смак маеш да гары. Што, пытаешся, якую я «амаратуру» маю? Хопіць мне на хлеб, і на спакой. Каб ты быў нават «найхаёшчы», прытым і досыць вучоны, не пайду я за цябе замуж. Ды і мамцы тваёй не спадабаюся, замалая ў мяне пенсія, — яна ж цябе не гадавала для якойсь старухі...».

Але знайшліся «старухі», якіх пераканаў Севярын Галоша. Пажыў з адной — перапісала на яго «фіата». Да другое хадзіў, насіў дровы ў печ, масаваў ступачкі — купіла яму «ладу» за ашчаднасці з пенсіі. Вечарамі хадзіў да настаўніцы-пенсіянеркі, тут жа і грошы большыя — размаўлялі пра літаратуру і, вядома, пра міфы. Запісала яму ў спадчыну старога «мерседэса», што застаўся ад мужа-нябожчыка. Забраў Сеўрык машыны на падворак, але не ездзіць — не мае правоў. А жанчыны паабражваліся адна на адну, не размаўляюць паміж сабой, усё чакаюць любага Севярына. Ён жа абяцаў кахаць да смерці, дапамагаць, апекавацца, прытуліць на старасць. «*Абідна*, — кажа настаўніца, — але ён жа ж малады. Але з тым, што я перажыла з ім, — нічога не зраўняецца. Інтэлігентны, скубанец. Свет перада мною адкрыў, чарадзей! Праўда, крыху ён нарцыс, але відны, красун». Народная паэтэса Гэльця, што яе дух лунае над нашымі палеткамі, усё ж не паддалася красе і не дала сябе ўматаць у славесныя чары Севярына Галошы, мяркуе, што ён можа не прості алкаш, нарцыс захоплены сваёй індывідуальнасцю, ведамі і чароўнасцю — а «псіх ненармальны». Ну, які ж ён псіх?! Псіхі сядзяць у дурдоме, а не ў бібліятэцы! Жанчыны, ачараваныя Сеўрыкам, кажуць, што Гэльця сама не цалкам нармальная: шпарыць тыя свае вершыкі, лезе на сцэну на фэстах, выступае. Чаго ёй трэба! Узяла б Сеўрыка ў мужыкі, мела б маладога чалавека, маладзейшага ад яе на дваццаць пяць гадоў. Зусім як той Макарон, ці як яму там, француз. Нюркі не павінна баяцца, хата ў іх аграмадная, асабліва цяпер, калі Уладзя пахавалі...

— Ты глянь, які помнік адгрохала свайму Галошы Нюрка, — паказвае навенькі помнік на могільніку суседка з другой вёскі, Кацярына. Помнік на дзве асобы, з ружовага мармуру. Нюрка дапісала сябе пад мужавым здымкам: Ганна Галоша, нарадзілася 12 жніўня 1931 года, памерла — тут высечаныя кропачкі. Жывая, яшчэ, значыцца. Ды ж яна ж народжаная ў 1929 годзе! Амаладзілася на два гады! Хоць на помніку...

— Ты, але нічога нікому не кажы, — перашэптвае вецер Кацярына. — Кажуць, гэта Сеўрычак тату свайго давёў да магілы. Той гебаў, гебаў, як тое нягеглае гусяня, але дажыў бы да ста гадоў, як яго бацька і дзед. А Сеўрык яго піхануў, бацька ўпаў на парог. І дух аддаў. Нюрка казала лекару, што проста самлеў... О, якія «міфы» ходзяць па народзе... А помнік Галошы — о ля, які харошы.

Фота і тэкст Міры ЛУКШЫ



## Канцэрт оперных зорак

19 жніўня гэтага года ў амфітэатры ў Нараўцы Гайнаўскага павета адбыўся канцэрт выдатнага тэнара Міхала Скепкі (ён ураджэнец Пасек Нараўчанскай гміны) ды яго прыяцеляў Марыны і Уладзіміра Гаравых з Гродна (Беларусь) з Гродзенскім камерным аркестрам. У нядзельны святочны час гледачы выслухалі прыгожых мелодый сусветнай славы італьянскіх, рускіх і нямецкіх кампазітараў.

Выступоўцы спявалі сола і ў дуэце. У іх моцныя і прыгожыя галасы (Міхал Скепка і Уладзімір Гаравы — тэнары ды Марына Гаравая — сапрана). Некаторыя оперныя мелодыі артысты выконвалі на біс. Яны так спадабаліся. Канцэрт быў самы адметны і ўспрыняты нараўчанскай публікай вельмі прыхільна. **(яц)**





## Як працуе пошта ў нашай краме

Польская пошта шукае ашчаднасці і ліквідуе свае аддзяленні на вёсках. Зараз свае міні-філіялы адкрывае ў вясковых крамах. Так ёсць у Старым Ляўкове Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. Тут прадаўшчыцы выконваюць некаторыя паштовыя паслугі ад гадзіны 8-й да 12-й. Добра, калі ўсе яны патрапяць іх выконваць, бо бывае інакш.

23 ліпеня гэтага года прадаўшчыца ў краме ГС у Старым Ляўкове заявіла мне (я прыехаў з суседняй вёскі), што па панядзелках пошта не працуе. Чаму, бо маладыя прадаўшчыцы ўмеюць абслугоўваць камп'ютар, а яна — не. Вось так. Маладая прадаўшчыца будзе пасля поўдня, але тады паштовы філіял ужо не працуе. Едзьце тады на пошту ў Нараўку, а да яе са Старога Ляўкова ўсяго 8 кіламетраў. А што там тых 8 км пехатой або на ровары для 75-гадовага мужчыны або жанчыны. Трэба табе, то едзь-каціся. А не, то сядзь і сядзі дома.

Зараз жыхарам вёскі і да крамы далёка (малыя паўсюдна паліквідавалі, (бо ў іх быў малы прыбытак), і на пошту, і да лекара. Зараз на сёлах засталіся дажываць свой век пажылыя людзі і ім нялёгка жывецца. Была б такая-сякая выручка, калі б былі з імі дзеці. А маладыя ж паехалі ў пошуках заробтку ў гарады або ў замежныя краіны. У мае сястры было шасцёра дзяцей. Цяпер трое з іх у Швецыі і Фінляндыі ды тры дзяўчыны жывуць у Беластоку. Дзе ні пачуеш, то маладыя юнакі і дзяўчаты выехалі з нараўчанскіх вёсак у Германію, Бельгію, Галандыю, Францыю, а то ў Канаду. Некаторыя ўжо не вернуцца, там маюць працу і кватэру. **(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Прысвяціў свой талент Беларусі!

**Яшчэ адна прыгожая старонка запісаная ўдзельнікамі Сустрэч «Зоркі». Пад кірункам радыёжурналіста Міхася Сцепанюка нашы сябры Паўліна Ёдла, Кандрат Косцін, Клаўдзія Ніканчук, Магда Вайцешык, Малгажата Астроўская, Міхал Пахвіцэвіч, Дам'ян Дмітрук і Мікола Абрамюк стварылі радыёперадачу, якая прагучала на хвалях Радыё Беласток у перадачы «Пад знакам Пагоні».**

**Міхась Сцепанюк:** — Вучацца асноўным журналісцкім формам, наведваюць наваколле, гавораць таксама з цікавымі людзьмі. Вучні некалькіх школ Падляшша прыехалі на XXXII Сустрэчы «Зоркі». Цягам цэлага тыдня маладыя адэпты журналістыкі працавалі ў трох рэдакцыях, стваpаючы газеткі.

Сёлетнія Сустрэчы прысвечаны сотай гадавіне абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі, таму ўдзельнікі шукалі, між іншым, адказ на пытанне, хто для іх з'яўляецца героем беларусам. Частка вучняў паспрабавала таксама сваіх сіл у радыёжурналістыцы. Вашай увазе прапануем перадачу, падрыхтаваную ўдзельнікамі майстар-класаў.

**Клаўдзія Галінская, рэдактар «Нараўчанскай ластаўкі»:** — Я чацвёрты раз ужо на Сустрэчах «Зоркі». Я была ў чацвёртым класе, у шостым, пасля ў гімназіі і цяпер. Спачатку я баялася ўсяго, гэта было страшна... бо трэба пісаць. А я была лаўрэаткай па прадметным конкурсе беларускай мовы (таму паехала), але я вельмі баялася.

**Радыё Беласток:** — *Ці цяжка весці рэдакцыю?*

**Клаўдзія Галінская:** — Мне здаецца, што не. Я была ўжо рэдактарам год таму і тады мне было цяжка. А цяпер у мяне файныя людзі, якія хочуць працаваць. Не, у гэтым годзе зусім не цяжка!

**РБ:** — *Як сябе адчуваеш другі раз на Сустрэчах «Зоркі»?*

**Коля Здрайкоўскі:** — Радаснае пачуццё, таму што я адчуў сябе вылучаным, мне даверылі быць рэдактарам і ад гэта прыемна.

**РБ:** — *Ці спадзяваўся Ты, што будзе столькі працы?*

**Коля Здрайкоўскі:** — Заўсёды на Сустрэчах было многа працы, так што я за апошні год прызвычаіўся.

**Ганна Кандрацюк, арганізатарка Сустрэч:** — У школе пераважна гаворым пра 100-годдзе незалежнай Польшчы. Мы хочам спалучыць гэтыя дзве гадавіны, паказаць, што мы блізкія народы, але таксама тое, што мы — як нацыянальная меншасць — ушаноўваем ідэалы Незалежнай Беларусі. Пра гадавіну гаворым у даступны, зразумелы спосаб. Таму галоўным матывам усіх сустрэч з'яўляецца пытанне: хто для нас з'яўляецца героем беларусам?



**Вікторыя Гаць:** — Магу тут пазнаць цікавых людзей, паслухаць, што яны думаюць пра беларускія справы. Мы мелі, напрыклад, спатканне з Яўгенам Вапам, які гаварыў пра тое, як важнае беларускае слова і чытаў вершы паэтаў-«белавежцаў».

**РБ:** — *Ці Ты спадзявалася, што будзе столькі працы?*

**Вікторыя Гаць:** — Спадзявалася. Для мяне такім пазітыўным шокам было тое, што я стала галоўным рэдактарам газеты «Бусел».

**РБ:** — *А што самае цікавае ў працы рэдактара?*

**Вікторыя Гаць:** — Трэба размяркоўваць задачы. Напрыклад, каб хтось перапісаў інтэрв'ю, каб хтось зрабіў крыжаванку ці прыдумаў загадкі. Трэба таксама пільнаваць сваёй працы.

**РБ:** — *Як адчуваеш сябе ў ролі дэбютанта?*

**Мікола Абрамюк:** — Нармальна, добра. Не спадзяваўся, што столькі будзе працы. Думаў, што больш будзе адпачынку. Але наш рэдактар вельмі мабілізуе і я ўжо прывык. Я не любіў пісаць, але цяпер, калі будзе дыктоўка ці нейкая праца, буду пісаць з ахвотай.

**РБ:** — *Ці цяжка весці рэдакцыю?*

**Іван Карсунскі:** — Я думаю, што не, таму што кожная газета мае па двух рэдактараў. Але ж за кожным трэба хадзіць і гаварыць яму, што трэба зрабіць.

**РБ:** — *Ці хацелася Табе прыязджаць на чарговыя Сустрэчы «Зоркі»?*

**Іван Карсунскі:** — Так, таму што гэта вельмі цікава. Скажу шчыра — гэта больш цікава, чым сядзець у школе і глядзець усе гэтыя дурныя фільмы на смартфоне, ці глядзець, як увесь твой клас пра нешта нецікавае размаўляе. А на Сустрэчах актыўна можна займацца. Тут сябра пад бокам, тут настаўнікі больш мілыя, чым у школе.

**РБ:** — *Што хочаце пераказаць маладым людзям?*

**Ганна Кандрацюк:** — Хочам паказаць і пераказаць, што, ствараючы беларускую газету, можна адчуць вялікую радасць ад творчай працы, што можна добра гуляць, весяліцца. І завязаць трывалыя, часам на доўгія гады, сяброўствы. Я вельмі шаную людзей, якія запісалі сваіх дзяцей на ўрокі беларускай мовы. Часам такія ўрокі адбываюцца на сёмай або восьмай гадзіне, калі ўсе стомлены і хочуць дамоў. Але нягледзячы на цяжкія абставіны, вучні не губляюць захаплення і аптымізму. Мне не шкада часу для такіх людзей, каб падзяліцца з імі вопытам і ведамі.

**РБ:** — *Хто для Цябе з'яўляецца героем беларусам?*

**Мікола Здрайкоўскі:** — Я думаю, што мой тата, таму што ён прывіў мне любоў да беларускасці. Але раней я над гэтым не задумваўся.

**Вікторыя Гаць:** — Я прымала ўдзел у зорчыным конкурсе «Мой герой беларус». Я там пісала, што для мяне героем з'яўляецца мой сябар Тамаш Суліма. Калі ў мяне нейкія праблемы, ён мне падкажа, што рабіць. Суцешыць, калі ў мяне дрэнны настрой.

**Мікола Абрамюк:** — Чалавека я не магу знайсці, але групы людзей ужо так. Гэта групы людзей, якія верныя свайму краю і шмат спраў для яго зрабілі.

**Клаўдзія Галінская:** — Мой герой — Лявон Вольскі. Гэта першая асоба, якая прыйшла мне ў галаву. Думаю, што калі б ён спяваў па-англійску, быў бы зоркай сусветнай велічыні і яго ведалі б ва ўсім свеце. А я прыехала на Сустрэчы «Зоркі» і тут некаторыя не ведаюць хто ён! Для мяне Лявон Вольскі — герой, таму што ён прысвяціў свой талент Беларусі.

*(апрацавала: рэд.)*

## УВАГА КОНКУРС!

## № 35-18

**Не йдзі шукаць яго да бору**
**За хаты выйдзі: вось і ён —**
**Раскрыўся проста пры разоры,**
**Як парашуцік**
ш........

**(К. Цвірка)**

## Загадкі з роднай хаткі

**Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 9 верасня 2018 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**Адказ на загадку № 31-2018: раса. Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі Вікторыя Гаць, Магда Якубюк і Дам'ян Карнілюк з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

# Гары Потэр і яго прагрэс

Паехаў Гары Потэр у лес,
знайшоў там вялікі
прагрэс.
Прагрэс
быў у кнізе схаваны,
а кніга як дуб і тараны —
нічога кнігу не разбівае!
Лупі, бі — хоць аглухні,
дарэмны маблярмус!
Гары сумны стаў,
яму надта
патрэбны прагрэс.
І тут кніга
вінаватай адчула сябе
адхіліла старонку,
прагрэс апынуўся
звонку.

**Іван Карсунскі**,
«Нараўчанская ластаўка»,
НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія
ў Беластоку



Гары Потэр вачыма Марка Кутузава, школа ў Нарве



Іван Карсунскі ў творчым трансе



На экскурсіі

Уладзімір Гардзейка

## Жнівень

Усё навокал зелянее
Пабялелі толькі нівы
Нібы хмаркі ў сінім небе
Гэта жнівень, гэта жнівень

Паглядзі, ужо рабіна
Чырванее сарамліва
А ў садах сінеюць слівы
Гэта жнівень, гэта жнівень

У жніўні кожны з нас багаты
Сыты нават і лянівы
Поўны стол у кожнай хаце
Гэта жнівень, гэта жнівень

Лета месяц ты апошні
І зусім не ганарлівы
Уздыхнуць спакойна можна
Як стаіць на ганку жнівень

Халады яшчэ далёка
І таму такі шчаслівы
Выйду ў поле і галёкну:
Я цябе вітаю, жнівень!

(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

# Воўк і ягнятка

Злавіў воўк ягнятка і хоча з'есці. А яно ўпала ў ногі і стала прасіць:

— Ты, мой пан і ўладар, рабі са мной што заўгодна. Аднак перад скананнем дазволь мне выказаць адно сціплае пажаданне.

— Ну, давай! — выскаліў з нецярплівасцю зубы воўк.

— Я чуў, што ўвесь воўчы род — таленавітыя трубачы, — прамовіла ягня. — Дык зайграйце мне, маэстра, на трубе, каб душа перад смерцю парадавалася. А пасля, ешце мяне на здароўе!

Воўк паверыў у прыгожую хвальбу, прысеў на траве і завыў на ўсё горла. Ды яго «ігра» звабіла ўсіх сабак з наваколля. Збеглася сабакарня і накінулася на «музыканта» ды да крыві яго пакусала. Паранены воўк ледзь вырваўся з гэтай тузаніны. Ён прыляцеў у бяспечнае месца, залізваў раны і дакараў сябе:

— Вось захацелася стаць музыкантам! Цярпі душа, калі адраклася і забыла пра свой род. Я ж заўсёды быў мясніком і сынам мясніка.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

## Польска-беларуская крыжаванка № 35-18

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 31-2018:**

Бор, сад, машынка, мянушка, там, смак, Янка, кот, смятанка. Бал, яслі, мята, ганак, шум, мыш, арка, кон, тата.

Узнагароды, наклейкі, выйгралі **Дам'ян Карнілюк** і **Магда Якубюк** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!



# Грушка — святое дрэва Камянецкай зямлі


Царква ў Вярховічах



Ці гэта быў покліч сэрца, ці звычайная прафесійная калькуляцыя? А можа падказка, якая драмала ў залежах памяці, накопленай пакаленнямі пушчанскіх продкаў. І ўразіў мяне той спакой, які замест здзіўлення, ахінуў на святым месцы. Быццам пасля дзікага і небяспечнага падарожжа вярнулася я на старое месца, дахаты...

Ну і прысутнасць бабы Веры, у якой паморшчаным аблічы, я ўбачыла воблік сваёй маці.

Месца, пра якое пойдзе мова, завецца звыкла — «Пуд Грушкой» або «Святая Груша». Яно ў Рэспубліцы Беларусь. Адтуль па простай лініі да нашай Чаромхі нейкія дзесяць кіламетраў, не болей. Для тых, што любяць вандраваць па карце, будзе цікавая адна дэталь. Грушку трэба шукаць у рагу, які на тэрыторыі Белавежскай пушы загадкава, бравурна ўбіваецца ў Польшчу. Гэта край Камянецкага раёна Брэсцкай вобласці. Для нас, жыхароў Падляшша, гэта зямля сваякоў, пушчанскіх продкаў. Даехаць туды зусім проста, праз Пяшчатку. Адразу за мяжой у Пагранічным трэба павярнуць на поўнач ды ехаць у Бушмічы, а пасля ў Вярховічы.

Але пра падарожжы будзе далей...

Бо гэта пакуль далёкая песня! Пра Грушку, як святое месца, якое «дапамагае» ў жаніцьбе састарэлых дзевак і кавалераў, я пісала ўжо ў 2007 годзе. Паранармальную вестку на сваёй шкуры праверыў мой сваяк. Раптам у 48 гадоў ён закахаўся. Стаў хадзіць зухаватым крокам, згубіў апетыт і сон, захапляўся ўсякай усячынай і любіў кожнага, каго сустрэў на сваёй дарозе, нават адвечных варажэнькаў. Пачуццё цягнулася паўтара месяца. Праўда, з жаніцьбай у яго не атрымалася. Але сваяк не шукаў вінаватых. Папраўдзе ён нічога сам не рабіў і нікога не шукаў. Нават тую малітву да Святой Грушкі замест яго занеслі, за адпаведнай заплатай, чужыя, прыгодныя людзі. Усё адбывалася па-за яго свядомасцю і плячыма. Ён сам, на той час заядлы малавер, не жадаў ніякіх змен, і асабліва жаніцьбы. На ўсе жыццёвыя паразы ён гаварыў так:

— Няма ў мяне долі!

Ён тады не ведаў і не разумеў, што народ цягне «Пад Грушку», каб перайначыць лёс, атрымаць шанс адновы, дабіцца сваёй долі...

* * *

У Свята-Мікалаеўскай царкве ў Вярховічах знаходзіцца манументальная ікона, на якой распісаны цуд у Грушцы. Як сведчаць архіўныя запіскі, падзея здарылася ў 1899 або ў 1900 годзе. Значыць, адносна нядаўна. Але на тым жа грудку, дзе зараз стаіць царкоўка і расце Святая Груша, ужо раней жанчыны з Бушміч бачылі «тайны свет».

Згаданая Ікона Божай Маці напісана ў народным стылі. Шмат гадоў яна прастаяла пад адкрытым небам. Людзі здзіўляліся, што не кранулі яе ні дажджы, ні ліўні, ні маразы, ні заядлыя прапаведнікі атэізму, якія беспаспяхова намагаліся зруйнаваць месца. Наадварот, ганенні і жорсткі пераслед рэлігіі толькі мацавалі веру, спрыялі аднаўленню культу.

Праўда, у саміх Вярховічах пасля вайны не зачынялася царква. Але тут было інакш, чым у наваколлі. Праваслаўныя занялі касцёл, які застаўся без вернікаў у выніку рэпатрыяцыі католікаў. Беларускія крыніцы гавораць пра мірную перадачу аб'екта. Сам ксёндз нібыта даручыў бацюшку ключы і пажадаў, каб месца добра служыла братам-праваслаўным.

На дзвярах Свята-Мікалаеўскай царквы прыкмечу дошку: помнік архітэктуры РБ з 1833 г.

Ікона, проста з-пад Грушкі, то-бок з поля каля Бушміч, патрапіла ў Вярховічы ў пачатку 1960-х. Яна адзіная ў сваім родзе. Карціна прамаўляе згушчанай эмацыйнасцю і ўнутраным бляскам. За сэрца кранае кволая постаць дзяўчынкі. Яна напамінае пакінутае птушанятка, загубленую перапёлку ў жыце. У Божай Маці выгляд прыгожай дваранкі. Дабрыня і спагада выпраменьваюць з кожнай крывінкі яе цела. Яна наўсцяж жывая, цёплая, натхнёная і адначасова боская...

І дрэва! Укаранелая груша непахісная, прамая, спрадвечная. Яна, папраўдзе, галоўная святыня культу. Людзі, якія прыязджаюць у царкву, спачатку ідуць пакланіцца святому дрэву.

— Нядаўна прыехалі тры жанчыны, — прыгадвае спадарыня Вера, — і адна адразу паляцела да грушкі, абняла яе і цалуе. Пасля мне сказалі, што ў гэтай жанчыны доўгі час не было дзяцей. А пасля таго, як яна ахвяравалася ў Грушцы, пачала нараджаць... Гэта я сама бачыла і чула, — падводзіць усё мая праведніца па месцы культу.

Спадарыня Вера — царкоўны стараста, вельмі ашчадны на слова чалавек. Ніколі не скажа таго, чаго не пачула і не пабачыла на свае вушы і вочы.

Месца апявае гімн, які таксама ў цэнтры ставіць святое дрэва паміж вёскамі Бушмічы і Вярховічы.

Между двух деревень,
На просторе растет,
Грушка — Божему чуду начало.
Сквозь столетия к ней
Православный народ
Свои скорби несет и печали.
Здесь о Боге таинственно нива поет,
Наклонясь тучным колосом к низу.
І зимой Ему Славу земля воздаёт,
Облаченная в белую ризу.

* * *

Легенда пра з'яўленне Божай Маці поўнасцю адлюстроўвае ўяўленне пра гора і шчасце пушчанскага народа. Яна магла ўзнікнуць у любой падляшскай вёсцы. Вось, тая няшчасная і загубленая дзяўчынка з іконы, так прадстаўлена ў архіўных запісках: «Вона була сырота з сем'і Павлючуков, з Бушмыч».

Дзяўчынку клікалі Параска. Апрача таго, што яна была круглай сіратой, ледзь-ледзь бачыла на вочы. У дзень, калі здарылася яўленне, Параска пасвіла дабытак. Інфарматары не ўдакладнілі ці пасвіла яна свіней, кароў ці авечак. Раптам неба закрылі чорныя хмары. З усіх бакоў смалілі маланкі і дзьмуў дзікі вецер. Спалоханае дзяўчо схавалася пад грушкай. Параска дрыжэла за жывёлу, якая ў жаху разбеглася ва ўсе бакі. Што будзе, калі маланка заб'е якую штуку! Ці заблудзіцца ў лесе! Як ёй тады вяртацца ў вёску? Ад прыкрых уяўленняў сіротка ўспыхнула балючым плачам. Яна абняла грушку і аблілася слязамі, якія сцякалі на ствол дрэва. І тады з'явілася прыгожая жанчына ў белай сукенцы. Жанчына супакоіла гаротніцу і паабяцала даць ёй «шчасце і долю».

— А хто вы такая? — спытала яе Параска.

Яна не пачула адказу, прыгожая пані, як нечакана з'явілася, так і нечакана знікла. Разам з тым спыніліся бура і вецер, на неба вярнулася сонца. У гэты дзень Параска вярнулася з пашы са здаровым зрокам. Людзі паверылі ў цуд. Ужо да 1914 года былі закуплены матэрыялы на пабудову царквы, былі зроблены фундаменты. Планы спыніла вайна і бежанства, у якое падаўся навакольны народ. А сама Параска Паўлючук апынулася ажно ў Амерыцы. Яна адтуль дасылала яду і вопратку для самых бедных жыхароў Бушміч. Апрача дароў жанчына дасылала грошы на пабудову царквы ў Грушцы...

Магчыма, гэта за яе сродкі была распісана манументальная ікона Божай маці з Грушкі, тая адзіная ў сваім родзе, што знаходзіцца ў Свята-Мікалаеўскай царкве ў Вярховічах.

*(працяг будзе)*

**Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК**


Грушка

# Харошча



Летні палац Браніцкіх

Спатрэбілася мне знайсці колішнія прышпітальныя могілкі. Тады злез я з аўтобуса каля шпіталя і давай узірацца за ягоную агароджу, мяркуючы, што недзе там, за агароджай, яны павінны і быць. А за шпітальнай агароджай распасцёрся байкаваты агароджаны ўчастак, шчыльна зарослы ўсялякай нізкай расліннасцю, аднак нейкіх тыповых старым могілкам пахавальных слядоў не ўдавалася мне звочыць.

Калі чалавек пільна разглядаецца, то ўсё ж такі нешта яму зачэпіць вока. Маё вока зачапілася пасля нейкага часу на жанчыне, што стаяла на дарожцы вакол таго зарослага ўчастка, экспануючы свой твар прамяням разгулялага ў сёлетняе лета сонца. Трымала яна ў руках папку з нейкімі дакументамі. Ну і падумалася мне, што гэтая жанчына, уладальніца папкі з дакументамі, павінна шмат ведаць пра мясцовыя асаблівасці.

Сапраўды, паінфармавала яна мяне, як дайсці да даўніх прышпітальных могілак. Паколькі аб'ект майго зацікаўлення аказаўся адносна далёка ад шпіталя і ад месца размовы, тады інфармацыя тая была толькі агульным арыенцірам, які абазначаў, што мне трэба будзе распытваць іншых людзей па маёй разведачнай трасе. А на пытанне, што гэта за зарослы травой і розным кустоўем участак, атрымаў я адказ, што гэта нейкая прыватная тэрыторыя.

Падаўся я тады далей у паказаным мне напрамку. Неўзабаве паказаўся мне той аб'ект, пра які ў першую чаргу інфармуюць розныя харошчанскія даведнікі — палац, які калісь служыў летняй рэзідэнцыяй Браніцкіх. У Харошчы бываў я некалькі разоў, але таго палаца неяк не ўдавалася мне звочыць. А тут такая нечаканасць. На недалёкай лавачцы сядзелі два мужчыны, якія падалі мне больш дакладную лоцыю ў напрамку займаючых мяне могілак.

Пабудова палаца пачалася ў 1730 годзе, але неўзабаве ён не вытрываў сырасці ад выкапаных вакол яго каналаў, і гетман вялікі каронны Ян Клеменс Браніцкі загадаў яго знесці і на яго ным месцы пабудаваць больш салідны; такі быў узведзены пад 1760 год. Налічваў ён „толькі" 22 памяшканні і гетман загадаў узвесці вакол яго іншыя меншыя збудаванні, якія да нашага часу не захаваліся. Гэта ўсё стварала большую ландшафтную кампазіцыю, воссю якой быў выкапаны раней галоўны канал з двума бакавымі накрыж ад яго. Галоўны канал вёў да штучна насыпанага назіральнага ўзгорка, названага Парнасам. Тут часта гасцяваў кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, брат гетманіхі Ізабэлі, якая была на сорак гадоў маладзейшая за свайго мужа. Гэтак было ў час Браніцкіх, а пасля іх беспатомнага сыходу аб'екты перайшлі ў іншае ўладанне, аднак новыя ўласнікі свае зацікаўленні засяроджвалі далёка ад Харошчы і вялікая кампазіцыя была папросту занядбана.

Новае жыццё спадчына Браніцкіх атрымала ў 1840-х гадах, калі сюды завіталі са Згежа нямецкія прадпрымальнікі, браты Моэсы. З аднаго боку палацавага комплексу прадпрымальнікі ўзвялі фабрычны комплекс, побач якога пабудавалі таксама жылы квартал для работнікаў сваёй фабрыкі. Запар была створана нямецкамоўная школа, пабудавана кірха і крамы. А сам палац стаў кватэрай новых уладальнікаў. Здавалася б, што магутны тэкстыльны комплекс, які ў час найбольшага росквіту даваў працу амаль дзвюм тысячам людзей, будзе квітнець і развівацца; быў гэта адзін з найбуйнейшых заводаў у цэлай Расійскай Імперыі. Аднак Першая сусветная вайна ўнесла істотныя змены ў Харошчу. Машыны з заводаў Моэсаў былі вывезены ў глыб Расіі, а па самой сям'і след прапаў.

У 1930-х гадах будынкі былой тэкстыльнай фабрыкі былі прызначаны для арганізаванага тады псіхіятрычнага шпіталя. Дзейнічаў ён да 1940 года, калі савецкія ўлады рашылі яго будынкі прызначыць на казармы, а хворых вывезці ў савецкую глыбінку; цяжэй хворых пераказваравалі ў каталіцкую плябанію. Годам пазней Харошчу занялі гітлераўцы, якія ў былым фабрычным комплексе стварылі лагер для ваеннапалонных, якія там папросту паміралі ад голаду і хвароб; пахаваны яны на прызначаных для шпіталя, згаданых раней могілках за Харошчай з боку Жоўтак. Астаўшыхся хворых гітлераўцы папросту расстралялі.

Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага: „Choroszcza, Choroszcz, Chworoszcza, mko, pow. białostocki, nad Choroszczanką i Narwią, ma 1512 mk., w tem 773 męż., 739 kob., 765 izr., 200 ewang. Wielka fabryka kortów C. A. Moesa i sp., na 215 warsztatach wyrabia 250 tys. arszynów tkanin. Siła pary 120 koni, robotników 800. Przy fabryce szkoła elementarna protestancka 2-klasowa, kosztem właściciela utrzymywana. Domki dla robotników z ogródkami. Fabr. założona 1846. Paraf. kościół katol. św. Jana Chrzc., murowany. Parafia kat. dekanatu białostockiego: dusz 4563. R. 1880 nawiedził Ch. wielki pożar. Zygmunt Stary w 1507 r. wydał prawo miastu Choroszczy, i zobowiązał tem prawem dawać królewskiemu wojsku 5 żołnierzy konnych i każdemu rycerzowi po 100 tymfów płacić podczas wyprawy wojennej. Miasto Ch. posiadało grunta od rz. Supraśla do Narwi; od wschodu, gdzie bierze źródło rzeczka Choroszczanka, cały obwód należał do parafii dominikańskiego kościoła. Dominikanie choroscy byli obowiązani ze swej szkoły uczniów wysyłać do uniwersytetu krakowskiego i wyprawiać do rycerstwa polskiego kosztem miasta. Posiadłości tego zakonu były wsie: Borszczewo, Krupniki, Łyski, Ogrodniki, Sińkiewicze, Nieroniki i Ruszczany; wymienione wioski noszą teraz nazwę włościan rządowych. Za panowania Jana III w 1683 r. pożar zniszczył całe miasto, liczące 600 domów, i kościół wyżej wspomniony, za co Jan III udarował miasto przywilejem. Odbudowany po pożarze kościół drewniany, także dominikański, o pół wiorsty ku zachodowi, gdzie obecnie sianożęć kościelna, przezwana Gajem, istniał lat 26 i także zgorzał w 1707 roku nim biskup wileński Pac zbudował do dziś dnia istniejący kościół w stylu gotyckim. Parafia Ch. składa się z miasta i przyległych wiosek jako to: Rogówka-szlachty (dawniej), przedmieścia Rogowa, Dzikich, Nowosiołek i Zastawia, oraz Izbiszcz, Kruszewa, Pańków, Konował, Kościuk, Zaczerlan, Borszczewa, Ruszczan, Żółtków, Fast, Oliszków, Ogrodników, Baciut, Łysków, Bacieczek, Krupnik, Porosłów, Topilca i Fabryki. Parafia grecka liczy obecnie 200 parafian; cerkiew założona była w r. 1769 przez hetmana Branickiego. Ewangelicka także 200 osób. Miasto liczy 250 domów".



Фрагмент могілак

Вытрымкі з іншай даведкі: „Christian August Moes (1810-1872) pochodził z Nadrenii-Westfalii. Urodził się w 1810 roku niedaleko Akwizgranu. 11 maja 1837 roku ożenił się z Constantią Boese, córką handlarza win z Sieradza. Dzięki posagowi żony mógł rozszerzyć działalność gospodarczą i w roku 1838 wraz z bratem Friedrichem założył manufakturę sukienniczą «Bracia Moes». Kiedy władze carskie wprowadziły granicę celną pomiędzy Królestwem Polskim a Rosją Christian August Moes postanowił przenieść swój kapitał na wschód. W roku 1840 osiedlił się w Choroszczy pod Białymstokiem. W tym czasie właścicielami miasteczka była rodzina Mostowskich. Na dogodnych warunkach wydzierżawił od nich teren i budynki dawnej rezydencji hetmana Branickiego. Pobudował kilka nowych hal produkcyjnych, a w dawnym pałacu urządził pokoje biurowe i sypialnie dla samotnych robotników. W 1846 roku firma «C.A.Moes at comp.» zatrudniała już 500 osób. W kilka lat stała się największym przedsiębiorstwem włókienniczym Białostocczyzny i jednym z największych przedsiębiorstw w Rosji wytwarzających kort. Fabryka posiadała własne składy w Warszawie, Wilnie, Kijowie, Połtawie, Petersburgu, Odessie, Charkowie i Moskwie. Christian Moes nie tylko rozbudował fabrykę. Rozpoczął budowę osiedla mieszkaniowego, zapewnił swoim robotnikom opiekę lekarską — otworzył aptekę, zbudował szpital i zorganizował kasę chorych. Dla domowników i pracowników wyznania ewangelickiego zbudował dom modlitwy wraz z dwuklasową szkołą elementarną. Kres świetności fabryki Moesów w Choroszczy położył wybuch I wojny światowej. Część urządzeń, surowców i gotowej produkcji wywieziono w głąb Rosji, resztę wysadzono w powietrze, a potomków Christiana Moesa ewakuowano. Żaden z nich do Polski już nie wrócił".

У 1892 годзе недалёка палаца была пабудавана стайня, часткова захаваная па сённяшні дзень, з выявамі конскіх галоў над уваходнай брамай.

Вярнуся яшчэ раз да могілак, якія былі закладзены ў 1930-х гадах, у час арганізавання шпіталя, а апошніх нябожчыкаў хавалі ў 1980-х, цяпер яны закрыты для пахаванняў. Захавалася на іх каля дзясятка намагільнікаў, а іншыя пакойнікі астаюцца ананімнымі. На гэтых жа могілках хавалі і памерлых савецкіх ваеннапалонных, якія таксама ананімна спачылі ў адным з вуглоў не надта абшырнай некраполіі. Інфармацыйная даведка падае, што пахавана там сем тысяч савецкіх ваеннапалонных, аднак гэты лік здаецца быць надуманым. Справа ў тым, што ў Харошчы дыслацыравалася ў пачатку Другой сусветнай вайны савецкая дывізія, якая, паводле штату, павінна была налічваць менавіта каля сямі тысяч чалавек. А паколькі тая дывізія канула ў Лету, то і было, відаць, прынята, што ўвесь яе асабовы стан спачыў на тамашніх могілках. Устаноўлены на ім помнік толькі Мырзабеку Баймырзаеву з Казахстана...

У 1944 годзе на прышпітальных могілках былі таксама пахаваны 208 байцоў, якія загінулі ў ходзе баёў за Харошчу; пазней былі яны перапахаваны на беластоцкія камунальныя могілкі.

Летні палац Браніцкіх быў адноўлены ў 1970-х гадах і зараз у ім філія Падляшскага музея з экспазіцыяй палацавага інтэр'ера.

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# ПАЛОМНІКІ
## Ў САКАХ І ЗАЛЕШАНАХ

1 ☞ працяг

а нават асобы, якія памятаюць гэтую горку з сямідзясятых гадоў, то ўбачыўшы тут так вялікую колькасць паломнікаў, якую вы тут саставілі, назвалі б гэта цудам, — сказаў а. Мікалай.

— Прымаючы Святое Прычасце, як зрабілі тут многія з вас, мы ўзмацняемся ў веры ў Хрыста і на гэтым асаблівым месцы перамяняемся на лепшых людзей, — заявіў архімандрыт Цімафей.

Дагэтуль не было традыцыі масава везці і несці драўляныя крыжы і крыжыкі на Дзмітрыеўскую горку, як гэта робяць паломнікі, што ідуць летам на Грабарку. Аднак некаторыя вернікі прывозілі на Дзмітрыеўскую горку вялікія крыжы і ставілі іх вакол царквы.

— Мы тут на горцы ўжо даўно закапалі сямейны крыж збоку ад царквы. Зрабілі гэта пасля таго, як у нашай вёсцы былі пажары і згарэла ў нас клуня, а таксама гарэлі іншыя гаспадарчыя будынкі ў нашай вёсцы. Ад усіх жыхароў нашага сяла тады быў таксама ўсталяваны каля царквы вялікі крыж. Стаяць яны тут па сённяшні дзень. Ёсць таксама іншыя старыя крыжы, якія прывезлі сюды жыхары нашых вёсак. Аднак няма тут такой традыцыі, каб ехаўшы на Спаса везці з сабой крыжык і ўстромліваць яго ў зямлю або закопваць каля царквы, як гэта робіцца на Грабарцы, — заявіла жанчына з Тапаркоў.

Найбольшы драўляны крыж ззаду Дзмітрыеўскай царквы быў устаноўлены ўжо на бетонным падмурку і замясціў стары крыж. Яго ахвяравальнікамі былі дзеці і ўнукі Пракопа Іваціка з Пасечнікаў-Вялікіх, які пазбегнуў смерці ў 1946 годзе, што спаткала вазакоў з Белавежскай пушчы і наваколля. Пасля малітваў да велікамучаніка Дзмітрыя Салунскага Пракопу ўдалося выратавацца ад смерці і, каб падзякаваць Богу і святому велікамучаніку Дзмітрыю, Пракоп устанавіў на горцы каля царквы драўляны крыж, які з часам знішчэў. Яго сын Павел Івацік з Гайнаўкі і сямейнікі паставілі вялікі крыж з аздабленнямі.

* * *

28 ліпеня ў Залешаны таксама прыбыло многа паломнікаў і святароў, каб святкаваць у гонар Залешанскай іконы Божай Маці. Малітвы ў час літургіі ў царкве св. Кацярыны ў Залешанах узначаліў архіепіскап бельскі Грыгорый. Пасля вернікі і святары з архіепіскапам хрэсным ходам з Залешанскай іконай Божай Маці пайшлі да крыжа, які знаходзіцца пасярэдзіне вёскі. Быў ён там пастаўлены для ўвекавечання загінуўшых жыхароў сяла ў 1946 годзе. За душы загінуўшых маліліся архіепіскап бельскі Грыгорый, святары і паломнікі. Пасля ўсе вярнуліся ў манаскі дом.



■ Каля крыжа пасярэдзіне Залешан маліліся за душы загінуўшых у 1946 годзе

З 2007 года Жаночы манаскі дом велікамучаніцы Кацярыны ў Залешанах узначальвае ігуменя Кацярына (Нічыпарук). Распавядала яна пра мужчыну, які прыехаў у царкву ў Залешанах маліцца за выздараўленне. У час літургіі заўважыў ён Божую Маці на іконе ў акружэнні сямі анёлаў. Пазней у час сну некалькі разоў мужчына чуў жаночы голас, які прасіў напісаць ікону Божай Маці. Мужчына выслухаў таксама трапарыён да Багародзіцы і калі выздаравеў, стаў ініцыятарам напісання іконы. На Залешанскай іконе Божая Маці стаіць акружана анёламі, знізу змешчаны трапарыён, пачуты мужчынам у сне. На іконе відаць таксама палаючы дом і трое дзетак у агні. Ігуменя Кацярына раней распавядала паломнікам, як жаўнеры атрада Нацыянальнага вайсковага згуртавання, якім камандаваў Рамуальд Райс, псеўданім «Буры», спалілі вёску Залешаны. Тады загінула ажно 16 жыхароў вёскі, сярод іх пяцёра дзетак. Ігуменя Кацярына перакanана, што менавіта дзякуючы хадайніцтву гэтых мучанікаў у Бога быў заснаваны ў Залешанах манаскі дом. Архіепіскап Грыгорый у час святкавання звярнуўся да сабраных паломнікаў з просьбай, каб жыццёвыя выпрабаванні пераносіць з пакорай і верай у Божую дапамогу ў час ліхалецця.

Святкаванні на Дзмітрыеўскай горцы і ў манаскім доме ў Залешанах закончыліся пачастункам падрыхтаваным для паломнікаў. Вернікі елі суп з хлебам, пілі напіткі, закусваючы булкамі, што стала ў гэтых месцах ужо традыцыяй.

❖ Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

---

Таварыства ўкраінскай літаратуры пры СБП

# http://druzi.by

Як сцвярджаюць моваведы, у беларускай і ўкраінскай мовах 80% агульнай лексікі. Гэта значыць, што яны настолькі падобны адна на адну, што беларусу не зразумець украінца і наадварот — украінцу беларуса практычна немагчыма. З гэтай прычыны падаецца зусім не дзіўным, што ў незалежным ад беларускіх улад Саюзе беларускіх пісьменнікаў існуе Таварыства ўкраінскай літаратуры. Каб бліжэй з ім пазнаёміцца, варта зазірнуць на сайт, які месціцца ў інтэрнэце па адрасе http://druzi.by.

Аздабленне сайта Таварыства адразу падкрэслівае яго ўкраінскасць — вакол тэксту з усіх бакоў месцяцца фарбы і малюнкі ўкраінскіх вышыванак. Пасярэдзіне галоўнай старонкі знаходзіцца вітанне да наведвальнікаў і арыгінальны лагатып з дзвюх літар беларускага і ўкраінскага алфавітаў — Ў + Є. „Тут размяшчаюцца свежыя творы сяброў Таварыства (дасылайце нам на пошту druzi.by@gmail.com), цікавыя факты і тэксты з беларускай і ўкраінскай культуры, па гісторыі беларуска-ўкраінскага памежжа. Тут можна будзе знайсці навіны і справаздачы з мерапрыемстваў нашага таварыства. Наш сайт — банк, архіў, сховішча разматых матэрыялаў па літаратуры, культуры, гісторыі Украіны, Беларусі", — распавядаецца на галоўнай старонцы сайта і дадаецца, што „це сайт друзів — друзів української культури з Білорусі — і сябровў беларускай культуры з Украіны, а таксама ўсіх, каму цікавая культура нашых краін".

Больш падрабязна пра Таварыства можна даведацца ў аднайменнай рубрыцы сайта. Там адзначаецца, што яно ўзнікла ў 2014 годзе як жэст салідарнасці з Украінай, якая перажывае складаныя часы, і спроба ўзаемнай культурнай дапамогі. Зараз арганізацыя налічвае 20 сяброў і рыхтуе альманах твораў беларускіх аўтараў, якія пішуць па-ўкраінску і на ўкраінскіх гаворках у электронным і папяровым выглядзе. „Ласкава запрашаем усіх, хто падзяляе мэты Таварыства, далучацца да працы", — заклікаюць на сайце.

У рубрыцы „Аўтары і творы" месцяцца творы сяброў Таварыства на ўкраінскай, беларускай і іншых мовах. Прадстаўлены творы 20 аўтараў, з якіх, па ўсім відаць, і складаецца Таварыства.

Цікавым падаецца рубрыка „Пераклады", дзе знаходзяцца пераклады ўкраінскіх аўтараў на беларускую мову, а таксама пераклады сусветнай класікі на ўкраінскія гаворкі беларускага Палесся. Асаблівай адметнасцю дадзенай рубрыкі можна назваць тэкст Новага Запавету на гаворку сяла Сімановічы Драгічынскага раёна Брэсцкай вобласці. „От як було́, як Ісу́с Хрысто́с родывся. По́сля заручын Ма́тыря Ёго́ Марі́йі з Ёсыпом, пырыд тым, як воны побра́лысь, ста́ло выдо́мо, шо Вона́ ма́е в жыво́ті од Ду́ха Свято́го. А Ёсып, мужык йі́йі, був чоловік пра́вадный і ны хотів на йі́йі нысла́ву пустыты, то вин хотів та́йно да́ты Юй во́лю", — такі „драгічынскі" пераклад Евангелля.

Рубрыка „Нон-фікшн" знаёміць з навукова-папулярнымі творамі, якія маюць дачыненне да гісторыі Украіны, Беларусі, украінска-беларускіх стасункаў, беларуска-ўкраінскага памежжа.

Хоць сайт і не навінны, ён мае нешта падобнае на стужку навін. Праўда, выйсце на яе адразу не ўбачыш, бо месціцца яно не сярод іншых выйсцяў на рубрыкі, а пасярэдзіне з правага боку цэлага выяўлення. Апошняя навіна датуецца кастрычнікам 2017 года.

❖ Аляксандр Якімюк

---

Дата з календара

Падзеі і асобы БНР

# 100 гадоў з часу стварэння
## Беларускай партыі сацыялістаў-федэралістаў

Беларуская партыя сацыялістаў-федэралістаў утварылася ў час БНР і дзейла да 1921 г. Афармілася ў ліпені 1918 г. у выніку распаду Беларускай сацыялістычнай грамады. Аб'ядноўвала каля 2 тысяч прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі, заможнага сялянства, службоўцаў. У склад ЦК БПС-Ф уваходзілі Антон Аўсянік, Язэп Варонка, Кастусь Езавітаў, Васіль Захарка, Пётра Крачэўскі, Янка Серада, Аляксандр і Іван Цвікевічы ды іншыя.

Друкаваны орган партыі — газета „Бацькаўшчына". Асноўнае ядро партыі складалі цэнтрысцкія элементы БСГ. У беларускім палітычным руху БПС-Ф знаходзілася ў цэнтры, справа была Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (БСДП), злева — Беларуская партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў (БПС-Р, партыя беларускіх эсэраў). БПС-Ф настойліва імкнулася звесці гэтыя два крайнія флангі беларускага руху на агульную глебу адначаснага вырашэння сацыяльных і нацыянальных праблем. Аднак ва ўмовах грамадзянскай вайны, калі супярэчнасці вельмі абвастрыліся, БПС-Ф не ўдалося ўкараніць цэнтрызм у практыку палітычнай барацьбы. У канцы 1919 года яна і сама прымкнула да левага курсу партыі беларускіх эсэраў, якія рабілі стаўку на „трэці шлях" у рэвалюцыі. Сэнс яго заключаўся ў змаганні за незалежнасць беларускай дзяржаўнасці.

У эканамічнай сферы БПС-Ф заняла пазіцыю сацыял-дэмакратаў і заявіла, што ў аснову свайго светагляду і тактыкі яна ставіць інтарэсы і імкненні працоўных мас. Пры гэтым яна адмяжоўвалася ад класавага падыходу — рэвалюцыйнага гвалту, палітычных рэпрэсій. У нацыянальным пытанні БПС-Ф падтрымлівала абвяшчэнне БНР. Аднак палітычная лінія партыі не супадала ў нацыянальным пытанні з імкненнямі правага крыла беларускага палітычнага руху. Большая частка членаў ЦК БПС-Ф не падтрымлівала нямецкую арыентацыю Рады БНР і разам з эсэраўскай фракцыяй спрабавала змяніць яе палітычны курс.

Яна фарміравалася як партыя парламенцкага тыпу і з моманту ўзнікнення канцэнтравала сваю дзейнасць найперш у Радзе БНР, якая спрабавала арганізавацца на ўзор буржуазнага парламента. Да восені 1918 г. падтрымлівала розныя формы супрацы Рады з нямецкай адміністрацыяй. Восенню ў час адыходу германскіх войск з тэрыторыі Беларусі БПС-Ф у кааліцыі з беларускімі эсэрамі абвясціла лозунг барацьбы супраць двух акупантаў — Германіі і Савецкай Расіі.

Ва ўмовах вострага палітычнага процістаяння з бальшавікамі БПС-Ф на сваім з'ездзе ў Гродне 5 студзеня 1919 г. прыняла праграму, у якой была пацверджана прыхільнасць да сацыялістычнай арыентацыі. Пасля захопу летам 1919 г. тэрыторыі Беларусі польскімі войскамі БПС-Ф выступіла супраць т.зв. федэралістычнай канцэпцыі Пілсудскага. 13 снежня 1919 г. на сесіі Рады БНР БПС-Ф падтрымала эсэраўскую ідэю аднаўлення „поўнай незалежнасці і непадзельнасці БНР" у этнаграфічных межах пражывання беларусаў. Яна фактычна адмовілася ад сваёй „федэралістычнай канцэпцыі", што была сфармулявана ў яе праграмных дакументах. Грамадзянская вайна ўнесла карэктывы ў праграмныя прыярытэты. Паступова адбылося збліжэнне БПС-Ф з партыяй беларускіх эсэраў, якія вялі барацьбу за нацыянальную незалежнасць і поўны суверэнітэт БНР.

Пасля вызвалення Беларусі ад польскіх войскаў дзейнасць БПС-Ф была фактычна забаронена, кіруючы актыў высланы за мяжу. У пачатку 1921 г. БПС-Ф спыніла існаванне на тэрыторыі БССР. У Заходняй Беларусі асобныя яе групы дзейлі да сярэдзіны 1920-х гадоў. У 1930-я гады былыя сябры БПС-Ф былі рэпрэсаваны, многія забіты.

❖ Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Абноўленая вуліца ў Крывятычах

Як вынікае з прад'яўленых радным матэрыялаў, арлянскі самаўрад прызначыў Бельскаму старосству мэтавую датацыю квотай у 1200 тысяч злотаў — на вуліцу ў Крывятычах, частку павятовай дарогі. Кошт яе перабудовы склаў за паўтара мільёна злотаў. Пакладзены новы асфальтавы насціл, па яго баках выкананы паглыбленні для сцёку вады, пракладзены з бетонных бруско́ў новыя тратуары ды пад'езды на панадворкі з чырвоных бруско́ў, у пачатку вёскі выкананы новыя пратокі і равы ў дарожнай паласе. Гэта найпрыгажэйшая дарожная інвестыцыя ў Арлянскай гміне. 29 ліпеня каля вясковых крыжоў адбылося ўрачыстае адкрыццё гэтай дарогі і яе пасвячэнне.

Пасля кароткай малітвы і пасвячэння настаяцель Арлянскага прыхода а. Славамір Хвойка сказаў:

— Дарога мае асаблівае значэнне для чалавека, таму што па ёй можна хутчэй і бяспечней даехаць. Калі чытаем Евангелле і ўглыбляемся ў навучанне Ісуса Хрыста, заўважаем, што Хрыстос часта карыстаецца словам „дарога". У духовым значэнні параўноўвае яе да Сябе, а нават паказвае, што такой духовай дарогай у жыцці чалавека з'яўляецца Ісус Хрыстос. Таму радуе нас, што будзем ездзіць бяспечна, толькі не ведаю, дзеля чаго ў яе пачатку пакінута прабоіна (сярод публікі раздаўся сардэчны смех; некаторыя даказвалі, што гэта „на памятку"). Дарога будзе служыць усім жыхарам; мяркую, што будуць яны ездзіць разважліва. Вельмі дзякую.

Войт Пётр Сэльвесюк сказаў:

— У першую чаргу цешуся, што можам сёння тут сустрэцца, каб святкаваць адкрыццё гэтай доўгачаканай жыхарамі дарогі. Кожнаму з нас найважнейшыя найбліжэйшыя дарогі. Не было б магчымасці здзяйснення гэтай інвестыцыі, якая каштавала больш паўтара мільёна злотаў, калі б не выдатнае супрацоўніцтва з бельскім Павятовым старосствам. Хачу падзякаваць спадарам старосту і віцэ-старосту, а жыхарам жадаю добрага карыстання.

Бельскі староста Славамір Снарскі:

— Айцец настаяцель, спадар войт-гаспадар, спадар войт-сусед (тут мова пра войта Чыжоўскай гміны), які імкнецца да Бельскага павета (сярод публікі пачуліся ўсмешкі), шаноўныя радныя і жыхары Крывятыч, старшыня Гміннай рады і солтысы! Айцец настаяцель адклікаўся да істоты дарогі; мне асацыюецца, што чалавек пры дарозе прыходзіць і пры дарозе адыходзіць. Такая зямная дарога, такая дарога ў вечнасць. Сардэчнае дзякуй спадару войту, бо, так як сказаў, гэта мы, самаўрадаўцы, адказваем за тое, што будзе адбывацца і мусім дзейнічаць, мусім задавальняць вашы спадзяванні настолькі, на колькі хапае розуму і грошай. Маем 650 кіламетраў павятовых дарог, патрэб многа, грошай не надта, усё гэта падаражала. Урад цешыцца, што многа даходу з ПДВ, бо адзін кіламетр каштаваў паўтысячы, а каштуе паўтары. Але мусім з гэтым спраўляцца. Цешуся, што гэта ўдалося. Я часта бываю ў Крывятычах у сяброўскай сям'і. Падтрымлівайце сваіх людзей, спадара войта, напэўна многа яшчэ можам зрабіць. Віцэ-староста таксама цэлым сэрцам з гэтай тэрыторыяй, размаўляем і шукаем добрых рашэнняў, каб людзей яднаць, а не дзяліць, каб былі сабе прыязнымі ўзаемна; гэтага вам жадаю, няхай дарога добра служыць.

Войт Чыжоўскай гміны Юры Васілюк:

— Айцец настаяцель, паны старасты, спадар старшыня, шаноўныя радныя, дарагія жыхары вёскі Крывятычы! Едучы сюды я падумаў, што ўжо даўно ў Чыжоўскай гміне не адкрывалі дарогі, а дачакаўся адкрыцця ў суседняй. Здавалася б, што будуць суправаджаць адмоўныя эмоцыі, але не — я з радасцю ўспрымаю сённяшнюю падзею. Усе дарогі важныя і служаць нам усім. Таму асаблівая пашана самаўрадавым уладам Арлянскай гміны. Віншую добрага супрацоўніцтва з паветам. Некалькі гадоў таму адкрывалі мы дарогу з Ракавіч у Крывую ў супрацоўніцтве з бельскімі паветам і гмінай. Сардэчна віншую і чакаю чарговых так паспяховых інвестыцый. Хачу на канец перадаць віншавальны ліст войта і старшыні арлянскай Гміннай рады. Жадаю, каб будучая неўзабаве падзея прынесла поспех; мова тут пра выбары. Такіх людзей, такіх гаспадароў трэба падтрымліваць падаючыся на выбарчыя ўчасткі.

Старшыня Гміннай рады і солтыс Крывятыч Аляксандр Клін:

— Айцец настаяцель, спадары старосты, спадары войты, радныя абедзвюх гмін, жыхары нашай вёскі! Я хачу падзякаваць старосству і ўправе, якая дала дазвол на перабудову і падтрымала фінансава. Таксама дзякую спадару войту. Хачу падкрэсліць, бо некаторыя кажуць, што старшыня забраў сабе ўсе гмінныя грошы на гэтую дарогу — гэта не так. Наш войт дзеліць пароўну. Кожная вёска не абмінута, усе аднолькавыя. З гміннай радай і войтам дзелім пароўну. Дзякую таксама настаяцелю.

Усе выступленні былі ўспрыняты воплескамі.

**Міхал МІНЦЭВІЧ**

# Жыццё з „Нівай"

З роднай „Нівай" у мяне пастаянны кантакт. Ад 60 гадоў. Гэта здорава. Столькі гадоў. Я цешуся, што маё жыццё так склалася і магу непарыўна штодзень быць з родным часопісам. Я зараз супрацоўнічаю з яе рэдакцыяй — у Новым Ляўкове, дзе жыву, пішу допісы, раблю здымкі і іх перасылаю ў рэдакцыю па электроннай пошце. Ужо шмат гадоў беларускі штотыднёвік прапаную чытаць сваім знаёмым і не толькі. Пра гэта таксама пішу, бо і ў гэтай дзялянцы маю поспех і магу пахваліцца. Зараз у Нараўку прывозяць многа экземпляраў „Нівы" і для ўсіх хапае.

„Ніву" № 28 ад 15 ліпеня гэтага года прывёз я для 11 асоб, якія пражываюць у Новым Ляўкове (7 экз.), Старым Ляўкове (1), Плянце (2) і ў Нараўцы (1), але ўжо „Ніву" № 29 ад 22 ліпеня г.г. для 16 жыхароў Забрадоў, Новага Ляўкова, Старога Ляўкова, Плянты і Нараўкі. У Забрады ездзіў на ровары і наведаў выдатную вышывальніцу Тамару Скепка (мае яна нават сваю хатнюю галерэю з рукадзеллем у суседнім з домам будынку). 30 нумар беларускага штотыднёвіка ад 29 ліпеня г.г. апрача Новага Ляўкова вазіў я ў Лешукі, Плянту і ў Прэнты каля Семяноўкі. Новай чытачкай „Нівы" стала Вера Лукашук з Прэнтаў. Наведаў я яе, між іншым, таму, што ў сваім сяле яна вядзе ўжо восем гадоў пункт скупкі лекавых зёлак.

Найбольш экземпляраў 31 нумара роднага часопіса ад 5 жніўня г.г. трапіла ў рукі, а гэта добра ведаю, бо іх давёз, 24 асобам, якія пражываюць у Ахрымах, Гайнаўцы, Гарадзіску, Леснай, Лешуках, Міклашэве, Новым Ляўкове, Старым Ляўкове, Новінах, Падляўкове, Плянце, Сушчым Барку і ў Семяноўцы. Праехаў я на ровары шмат кіламетраў ды ў спякотныя першыя жніўеньскія дні. Цешуся, што змог усё гэта пераадолець. Часу мне не хапіла на размовы. Запрашалі зайсці ў дом, між іншым, у Лешуках і Семяноўцы. Пагутарыў з чытачамі ў Ахрымах, Гайнаўцы, Новінах і ў Плянце.

Дзякуй чытачам за тое, што пахвалілі мяне за мае допісы, што пішу іх коратка і ясна. Доўгія тэксты — як прызналіся — не заўсёды дачытваюць да канца, бывае астаўляюць, каб прачытаць іх пасля, калі будзе ў іх больш вольнага часу. Дзякавалі таксама, што прывожу ім „Ніву" і што маюць магчымасць звярнуцца з пытаннямі да раднага і солтыса ды, што ні кажы, вядомага карэспандэнта „Нівы". Ён на старонках беларускага часопіса і вось тут, з імі, вельмі часта, як не кожны тыдзень. Дык да новых сустрэч!

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

# Адгаданка

Адгаданка Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. злакавы конскі ласунак = 35 _ 34 _ 36 _ 33 _;
2. пара года з Вялікаднем = 38 _ 24 _ 17 _ 23 _ 16 _;
3. агародная расліна, якую трымае... гаспадыня = 10 _ 11 _ 12 _ 13 _;
4. ледзяныя крышталікі на ахаладжанай паверхні = 39 _ 40 _ 41 _ 37 _;
5. вялікая італьянская рака = 31 _ 2 _;
6. крот або... аплявуха = 6 _ 22 _ 9 _ 20 _;
7. партызанская сястра бярозы = 4 _ 5 _ 28 _ 18 _ 32 _;
8. агароджа з пераплеценых пруткоў лазы = 1 _ 30 _ 29 _;
9. гарбата = 26 _ 27 _ 3 _;
10. частка прасторы абмежаваная сферай ў... Шарашове = 25 _ 8 _ 7 _;
11. трохвугольны элемент беларускай хаты, тыповы для вёсак між Орляй і Чыжамі = 14 _ 15 _ 19 _ 21 _.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

| | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | | | | | | | | | | |
| | | | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | | |
| | | | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | | |
| | | | | | | | | | 20 | 21 | 22 | |
| | | | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | | |
| 31 | 32 | | | | | | | | | | | |
| | | 33 | 34 | 35 | 36 | 37 | | 38 | 39 | 40 | 41 | |

**Адказ на адгаданку з 32 нумара**

Сусед, шыя, вайна, вада, асёл, Марока, Хуан, торт, гарызонт, яблык, цар, поле.

Рашэнне: **Не давярай таму, хто лёгка абяцае**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбалаў.

Ніва ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzowa „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerami: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 000 egz.

# 02.09 — 08.09

**(22.03. — 20.04.)** Будзе шмат раптоўных змен у тваім жыцці. Паявяцца новыя задумы на працу і правядзенне свабоднага часу. Можа, зоймешся работай у дабрачыннай арганізацыі ці нават палітыцы. Асвяжы старыя знаёмствы. Зачаруеш усіх сваёй красой. Падзеі як на каруселі; не вырашай аб важным. Пазбягай прагнасці.

**(21.04. — 21.05.)** Трапіш у вір падзей. Магчыма, што не дасць табе спаць справа, якую лічыў ты даўно завершанай. Адпачнеш — парадаксальна — пры звычайных штодзённых абавязках. Пры нагодзе вернеш сабе пачуццё бяспекі і будзеш больш самаўпэўнены. Падумай пра павышэнне кваліфікацый, запішыся на нейкія курсы, абучэнні — неўзабаве гэта табе прыдасца.

**(22.05. — 22.06.)** Ты намерваўся кудысьці далей паехаць? Будзе нагода! З экскурсіі прывязеш шмат «скарбаў». Трэба будзе таксама заняцца сям'ёй. Будуць нагоды надрабіць сямейнае і кампанейскае жыццё. Магчымыя ўдачы ў фінансах. Памятай, што кампраміс — часта найлепшы спосаб вырашэння канфліктаў і наладжвання паразумення.

**(23.06. — 23.07.)** Усе тваё сакрэты могуць выявіцца. Не давай намовіць сябе на прызнанні, асабліва тым, з кім працуеш. Схочацца выдаваць грошы на дарагія рэчы. Прыгатуйся на даўжэйшы выезд. Прынясе ён табе многа карысцей, не толькі фінансавых. У верасні паявяцца шанцы на новую працу, але вяжацца гэта з абучэннем або перакваліфікацыяй. Не адкладвай нічога на пасля. Старайся не ўваходзіць у дарогу Скарпіёнам.

**(24.07. — 23.08.)** Пазбудзешся фінансавых турбот, прынамсі на найбліжэйшыя месяцы. Тое, што пачаў ты ў ліпені, цяпер аддасць працэнты. Поспехі на прафесійным полі. Кампенсуеш сабе былыя выпадкі і няўдачы! Але памятай — грошы гэта не ўсё. Не прабуй іх здабываць усёй цаной. Многа шпацыруй, паедзь над ваду, зарадзкай акумулятары — неўзабаве станеш перад нялёгкімі выклікамі, спатрэбіцца табе многа энергіі.

**(24.08. — 23.09.)** Стой моцна на зямлі. З усяго мусіш сумленна разлічыцца. Больш часу аддай блізкім, якіх ты ў апошні час занядбоўваў — і сям'я, і сябры могуць мець да цябе з-за гэтага прэтэнзіі. Можа, разам кудысьці з'ездзіце? Але не раскідвайся грашыма, бо пад канец верасня можаш трапіць у фінансавую ямку. Можаш разглянуцца за дадатковым заробкам.

**(24.09. — 23.10.)** Добрая форма. Вельмі добра кацірешся ў кампаніі, у інтарэсах і падарожжах. Верасень спакойны і сямейны, прыемнасці з выконвання празаічных, штодзённых заняткаў. Упарадкуеш сваё пачуццёвае жыццё. Новыя задумы на працы, можаш мець ад гэтага немалыя поспехі. Сядзь на здаравейшую дыету. Можаш кончыць з кепскай звычкай.

**(24.10. — 22.11.)** Удалы і вельмі працавіты перыяд. Вялікі прыліў энергіі. Новыя сілы і новыя задумы на працы, якія пачнеш адразу ажыццяўляць. Самотны Скарпіён няхай азіраецца па баках, магчыма, сустрэне кагосьці, з кім варта быць назаўжды; пара будзе трывалая і шчаслівая (найлепш з Шалямі і Казярогамі). Прыдасца табе веданне моў. Фінансы ў верасні могуць папраўляцца дзякуючы выпадку, выйгрышу. Новыя прапановы, дамовы, дасі рады нават з найцяжэйшымі фінансавымі справамі.

**(23.11. — 22.12.)** Твой галоўны занятак у верасні — зараблянне грошай. Пазнаёмішся пры тым з многімі цікавымі людзьмі. Але не давярай усім, асабліва асобам, якія стаяць вышэй цябе. Будзь для іх шчыры, але не расказвай пра ўсё, што ведаеш, тое-сёе варта прамаўчаць. На гарызонце нейкае падарожжа (за мяжу?), таму налягай на вывучэнне моў. Можа, загарышся да пабудовы дома.

**(23.12. — 20.01.)** Доўгі і бестурботны адпачынак (спадзяюся, што ты ўсё парабіў у жніўні?). Выберы такія формы рэлаксу, што паслужаць здароўю і добрай форме, таксама псіхічнай. Не думай пра працу і прыкрыя абавязкі. Чакай, медытуй, вяртай сабе ўнутраную гармонію. Калі паявяцца ў атачэнні канфлікты, барані Бог — не ўключайся ў іх. Асабліва добры дзень: 6 верасня.

**(21.01. — 19.02.)** Верасьнёвыя дні будуць вельмі бурлівыя. Магчымыя перш за ўсё сардэчныя турботы, але можна будзе іх перамагчы. У выпадку нялёгкага выбару, не вырашай хутка, бо можаш зрабіць непапраўную памылку. Нейкія паразы на сардэчным полі лёс кампенсуе табе на іншым. Хутка паафарміш няскончаныя справы, здай экзамены. З усім справішся!

**(20.02. — 21.03.)** Справы складуцца няблага. Будзеш баявіты, прадпрымальны, спраўны пры ўласных інтарэсах. Асабліва ўдала ў пачуццях. Будзеш зачароўваць красой і сексуальнасцю. Калі нейкі Баран запрапануе табе сустрэчу — не адмаўляйся. Можа быць гэта пачатак файнага сяброўства або нават і чагосьці большага. Не занядбоўвай абавязкаў на працы, а яе будзе шмат! Вельмі файны дзень 7 верасня.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Маё Кіліманджара

## (заканчэнне)



Людскі арганізм — вельмі складаная штука. У час бясконцай, маруднай вандроўкі ўверх праз цёмную як выкалі вока ноч ёсць час прыслухацца да яго працы. І здзівіцца, як тыя тысячы элементаў не рассыплюцца, калі ты чуеш, што завесы суставаў скрыгочуць усё гучней, што галоўная помпа затыкаецца і не паспявае дастаўляць жыццяздольную вадкасць у канечнасці, што некаторыя мышцы завязаліся ў цвёрдыя мазалі, а іншыя рвуцца на дробныя кусочкі. Паасобныя часцінкі ўсё больш разыходзяцца, не пасуюць адна да аднае. Гэта ўсё не мае права трымацца ў купе! А тым часам не толькі трымаецца, а яшчэ і рухаецца.

Снег ляжаў дзесьці на вышыні 5300 метраў. Гэта прымусіла нас падымацца ўверх па больш крутым маршруце, каб працiснуцца між белымі языкамі, якія спаўзалі з цёмнай гары. І паскорыла дэзынтэграцыйныя працэсы ў арганізме. Цэлае шчасце, што мы ішлі ноччу і не бачылі мэты нашай вандроўкі!

Да Джыльманс Поінт неяк знаходзілі дарожку па чорнай зямлі. Апошнія дзвесце метраў ішлі ўжо па белым. У яркім сонцы.

— Апошні раз столькі снегу на Кіліманджара бачыў я дваццаць гадоў таму, — круціў галавой з недаверам Лешак Ціхы. — Не раз бывала так, што да самага Піку Угуры нага не ступала на снег.

Цяпер вяла туды пратаптаная на паўметра ўглыб вузкая сцяжына. Вельмі нязручная. Не было як паставіць ногі побач сябе, а толькі адну за адной. Што і руш чалавек спатыкаўся, шукаў падпоры рукамі. Кійкі толькі замінаі. Лепш было ісці вышэй, побач са сцежкай, балазе снег быў цвёрды, не крышыўся пад нагамі. Аднак для людзей, якія баяцца вышыні, гэта было выпрабаванне. Хаця зямля не абрывалася крута ні з правага, ні з левага боку, а толькі лагодна закруглялася долу, то свядомасць вышыні і таго, што па дарозе ўніз няма ніякага натуральнага бар'ера, можа падрэзаць крылы і падкасіць ногі.

Я забыўся на аналіз свайго арганізма, а стаў думаць пра тое, ці змагу ўбіць у цвёрды як скала снег адзін са сваіх кійкоў і як зрабіць, каб ён мяне затрымаў, калі буду сунуцца долу. Але сапраўдны страх адчуў, калі праваднік, які ішоў побач подскакам, пакаўзнуўся на снезе і ўпаў. Праўда, тут жа падарваўся і зноўку падаўся ў прыскокі. На пытанне, ці не баіцца, адказаў: „Не. Гэта ж мой дом". А мае ногі з таго моманту ўдвая памякчалі, а тэмп хады рэзка спаў. На шчасце гэта было ўжо на зваротным шляху.




■ У найвышэйшай базе напярэдадні атакі на вяршыню.




■ На Даху Афрыкі

* * *

Энтузіязм на вышыні амаль шасці кіламетраў цяжка параўнаць з чым-небудзь! Раптам перастае табе балець, робіцца цёпла і лёгка. Забываешся не толькі на апошніх непасільных сем з паловай гадзін, але на ўсе дні і ночы, якія ў пакутах наблізілі гэты момант. Зусім натуральна кідаешся ў абдымкі з тымі, хто побач цябе. Проста ў гэты момант кахаеш увесь свет, усё чалавецтва.

— А ты не верыў, што зможаш гэта зрабіць, — смяецца Лешак і выцягвае доўгія рукі, каб абняць кожнага з нас. — Віншую.

Я не то, што не верыў, колькі меў многа сумненняў. Засталіся яны далёка ззаду, а на вяршыні з'явілася адчуванне, што няма табе немагчымых заданняў. Схочаш пакарыць Джамалунгму — зробіш гэта, схочаш пераплысці Ла Манш — пераплывеш, схочаш паляцець — хопіць толькі памахаць рукамі...

Аптымізму яшчэ дадаў нам канадзец, які фатаграфаваўся побач са знакам „Пік Угуру — 5895 метраў". Выцягваў па чарзе карткі з надпісамі каго кахае, за кім сумуе, каму шле прывітанне з Даху Афрыкі. Гэта ўсё цягнулася, крыху пачынала нерваваць, але на канец ён нас перапрасіў, што мусілі чакаць сваёй чаргі. Ён гэтага чакаў цэлае доўгае жыццё — 91 год! З гэтага моманту нам, ва ўзросце яго дзяцей і ўнукаў, стагнаць на боль у каленях і наракаць на іншыя цяжкасці стала звычайна сорамна.

Праграма пабыўкі на вяршыні кароткая і інтэнсіўная. Віншаванні, захапленне сонцам, ледавіком і хмарамі пад нашымі нагамі, пару здымкаў і назад. А тут на табе, батарэя ў тэлефоне на марозе поўнасцю разрадзілася. Батарэі ў апараце хапіла на якіх дзесяць фотак. Аказваецца, дасведчаныя горныя вандроўнікі трымаюць такія рэчы пад курткай і абаграваюць іх сваім целам. Адкуль мне было гэта ведаць!? На шчасце, у групе былі разумнейшыя за мяне і неяк супольна ўдалося нам увекавечыць гэтыя незабыўныя мінуты.

Мяне асабіста найбольш уразіла тое, што снег з ападкаў і ледавік, гэта як быццам два асобныя светы, якія не перакрыжоўваюцца і не мяшаюцца адзін з адным. У іх іншы колер і, здавалася, іншая кансістэнцыя. Адчувалася, што свежы снег нейкі часовы, растане і сплыве, а цвёрдая грань ледавіка, гэта тое, што трывае і заварожвае кожнага, хто пабачыў Кіліманджара. Толькі гэтай ледзяной скалы, якая іграе рознымі колерамі ў яркім афрыканскім сонцы ўсё менш. Ці змогуць запаволіць або затрымаць яе раставанне ападкі ў мокрую пару года, хай сабе і такія інтэнсіўныя як сёлета? Гэта пытанне не столькі эстэтычнае, а экзістэнцыяльнае. На вадзе з ледавікоў Кіліманджара трымаецца сельская гаспадарка ў рэгіёне, так у Танзаніі, як і суседняй Кеніі.

* * *

Сем з паловаю гадзін пакут уверх, дзесяць хвілін бязмежнай радасці на вяршыні і пяць гадзін змагання з арганізмам па дарозе ўніз. Такія мае лічбы з узыходжання на Кіліманджара. Праўда, зысці можна было б хутчэй. „Абапірайся на кійкі і едзь на пятах як на лыжах, меандрамі", давалі добрыя парады спрактыкаваныя ў гарах кампаньёны, калі мы зноў апынуліся на ўзроўні вулканічнага пяску. Вазьмі і едзь, калі чалавек меў лыжы на нагах раз у жыцці, і то бегавыя! Не, вы сабе меандруйце, рабіце што хочаце, а я буду спаўзаць па-свойму. Пасля таго, што я перажыў, мне спяшацца няма куды. І лепш на здымках буду глядзецца з неаббітым, непаабдзіраным тварам. Не кажучы пра больш сур'ёзныя кантузіі.

Нашу групу шчасліва абмінулі непрадбачаныя выпадкі. Праўда, Мадзі не хапіла ста метраў вышыні да Піка Угуру (такое бывае, што трэба вырашаць, ці наступны крок, гэта яшчэ разважліва), але па-першае і так лічыцца (ад Джыльманс Поінту), што яна скарыла гару, а па-другое і больш важнае — усе мы шчасліва вярнуліся ў базу. Пры чым найбольшымі нашымі траўмамі былі абцертыя ногі ды страўнікавыя сенсацыі, якімі арганізм адрэагоўваў нечалавечы высілак і стрэс. А ў той дзень праваднікі знеслі з гары дзве асобы з ацёкам лёгкіх.

* * *

Пасля гары Лешак Ціхы змяніўся. Не быў ужо такі сухі і афіцыйны. Рэагаваў больш жыва і часцей усміхаўся.

— Глянь, якія свежачкі, — дыскрэтна падміргнуў мне, калі мы ў апошні дзень спускаліся да галоўнага выхаду з Нацыянальнага парку Кіліманджара і віталіся з групамі, якія толькі падымаліся ўверх. — Якія яны ўсе чысценькія, як яшчэ прыемна пахнуць.

Што яны міжсобку маглі казаць пра нас? Хацелася б, каб было гэта нешта накшталт: „Так пахнуць пераможцы!" Баюся, аднак, што пасля тыдня на шляху ў поце ды пыле мы не пахлі іншым як героі, пакарыцелі Гары Бога, а проста рассейвалі вакол сябе букет характэрны нямытым целам.

— Ведаеш Лешак, каб мяне хто цяпер спытаў, ці хачу я другі раз пайсці на Кіліманджара, я б не пайшоў за ніякія грошы — рашыўся я на шчырасць на шляху, стараючыся раўняцца на яго доўгі крок. — Але, каб мяне хто спытаў, ці варта было туды ўзабрацца першы раз, без сумневу адказаў бы, што так!

Цяпер, амаль два месяцы пасля таго, калі вяртаюся ўспамінамі да перажытага, здаецца мне, што мой адказ на першае пытанне не быў бы ўжо такі адназначны.

**Мікола ВАЎРАНЮК**

ISSN 0546-1960 35